# ЗЬМЕСТ.

Стр.


1. Да дню „Сьвята Ураджаю“ *(П. Рагавы)*. . . . . . . . . 1
2. Некатор. вынікі працы Турскай дасьледч. станцыі *(Агрон. Энгельгардт)* . 3
3. Занятыя папары (з вынікаў працы дасьледч. установу) *(А. Казлоўскі)*. . . 5
4. „Перадавы Беларус“ *(М. Лайкоў)*. . . . . . . . . 9
5. Апавядан. старога селяніна з-па-над Сожа аб сваёй гасп. *(Вітаўскі)*. . . 11
6. Гаспадарка селяніна Сяргея Мукамолова *(Сьц. Кот)*. . . . . 15
7. Гаспад. селяніна Янкі Шоцкага з. в. Н. Тарасавіч *(Райагр. П. Сяргейчык)*. . 16
8. Гаспадарка селяніна Цімоха Савельева *(А. Дземідовіч)*. . . . . 17
9. Як атрымаць добрае валакно лёну *(А. Савельеў)*. . . . . . 19
10. Як павялічыць ураджай бульбы *(агрон. Б. Бабіцкі)*. . . . . 21
11. Ад чаго зводзяцца цэнныя сарты збожжа *(Г. Рэго)*. . . . . 22
12. Аб жывёлагадоўлі на Беларусі *(агрон. Ластоўскі)*. . . . . 24
13. Нашы дасягненьні ў садоўніцтве *(М. І. Бурштэйн)* . . . . 27
14. Як узгадаваць пладовыя дрэвы ў сваёй гаспадарцы *(А. Карлсон)*. . . 28
15. Як скарыстаць ураджай саду *(агрон. Андрусеўская)*. . . . . 31
16. С.-г. крэдыт у змаганьні за ўраджай *(Е. Трахімаў)*. . . . . 34
17. Працы Цэнтраземскладу *(Бахір)*. . . . . . . . 35
18. Праца Зембінскага крэдытнага с.-г. таварыства *(П. Захарыч)*. . . 39
19. Аб с.-г. гуртках і іх працы *(агрон. Сьцяпура)*. . . . . . 42
20. Аб 5 мес. школах дарослых сялян *(Ляпёшка)*. . . . . . 43
21. Аб дзіцячых с.-г. клюбах *(М. Альбіцкі)*. . . . . . . 44
22. Лён-даўгунец *(Сел. Сялюкін)*. . . . . . . . . 45
23. Як я карміў сьвіней улетку *(Сел. Тарасенка)*. . . . . . 46
24. Парады агронома . . . . . . . . . . . 47
25. С.-г. хроніка . . . . . . . . . . . —

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.



№ 9. Верасень 1925 г. № 9.

## Да дню „Сьвята Ўраджаю“.

„Сьвята Ўраджаю“ заслугоўвае нашае найвялікшае ўвагі таму, што ў нашай асабліва сельска-гаспадарчай краіне са ўсяго Саюзу Савецкіх рэспублік, ураджай адыгрывае галоўную ролю ў добрабыце краю. Ураджай нясе палёгкі ўсім. Добры ўраджай гэтага году ўжо даў значныя палёгкі ў жыцьці сялянства.

Нам патрэбен заўсёды добры ўраджай. Вось у дзень „Сьвята Ўраджаю“ і заклікаюць усіх разам падумаць аб ураджаі, паведаміць другіх аб сваіх дасягненьнях і паказаць вынікі спроб палепшаньня ўраджаю, у каго яны ёсьць. Тых-жа, хто яшчэ па тых ці іншых умовах не скрануўся з дзедаўскіх спосабаў вядзеньня гаспадаркі ці спробы якіх былі няўдачлівымі, запрашаюць паслухаць і паглядзець вынікі перадавых, больш удачлівых гаспадароў. Ня кожнаму гаспадару ўдаецца знайсьці спосабы палепшаньня ўраджаю, але тое, што знойдзена некаторымі, павінна быць вядома ўсім.

Палепшаньнем ураджаю цікавяцца разам з гаспадаром усе адпаведныя дзяржаўныя ўстановы (Наркомзем, Белсельбанк і г. д.). Гаспадару добра відаць толькі тое, што блізка каля яго знаходзіцца. Дзяржаўныя-ж установы аглядаюць усю народную гаспадарку, ім вядомы ўсе дасягненьні і недахваты на вялікіх прасторах краю. Мала гэтага, яны робяць спэцыяльныя досьледы на асобных дасьледчых с-г. станцыях па розным пытаньням палепшаньня ўраджаю.

Дзень „Сьвята Ўраджаю“ павінен быць днём найбольшага аб'яднаньня агропрацаўніка і селяніна. Сяляне сваімі выстаўкамі на месцы павінны выявіць усе свае дасягненьні, агропрацаўнікі павінны азнаёміць сялянства з навуковымі і практычнымі дасягненьнямі ў справе палепшаньня ўраджаю ў нас на Беларусі і нават ва ўсім сьвеце.

Гэты нумар „Плуга“ прысьвячаецца асьвятленьню дасягненьням у розных галінах гаспадаркі Беларусі і асабліва павялічэньню ўраджаю.

З гэтаю мэтай мы даём асьвятленьне працы і дасягненьня ў нашых беларускіх і бліжэйшых суседніх с.-г. дасьледчых станцый. У кароткім нарысе зачэпляны толькі найбольш выразныя галоўныя дасягненьні палявой гаспадаркі, па якім кожнаму відавочна, якія вельмі каштоўныя дасягненьні маюцца ў падняцьці ўраджаю і як далёка ня ўсё гэта скарыстана нашымі землягробамі.

Разам з гэтым мы даём апісаньні шэрагу перадавых сялянскіх гаспадарак, якія альбо сваім розумам дашлі, альбо ўмела скарысталі вельмі значныя дасягненьні другіх. Прыклад гэтых гаспадароў павінен сьведчыць усім гаспадаром, што ўсе навуковыя і практычныя дасягненьні пры ўмелым іх скарыстаньні, могуць быць з вялікай карысьцю ўжыты ў любой сялянскай гаспадарцы. Калі-ж ёсьць якія перашкоды,

дык іх трэба хутчэй зьністожыць і рашуча ісьці па шляху культурных і навуковых парад, якія пэўна вядуць да палепшаньня ўраджаю, к добрабыту.

Садоўніцтва [зьяўляецца неадменнай часткай гаспадаркі. Увесь вольны час ад палявых работ гаспадар можа з карысьцю патраціць на сад. Сад—гэта скарбёнка гаспадара, закладаючы ў якую магчыма больш працы, магчыма мець тым больш карысьці і здавальненьня.

Жывёлагадоўля—гэта тая фабрыка, на якой гаспадар перарабляе продукты палявой гаспадаркі і сенажаці ў лепшыя продукты—малако, масла, сыр, сала, мяса, яйкі і г. д. і гной. Карысьць ад ураджаю ў значнай меры залежыць ад умелага скарыстаньня продуктаў ураджаю. Ураджай у нас на Беларусі залежыць ад ліку і якасьці гною. У дзень „Сьвята Ўраджаю“ трэба з няменшай увагай затрымацца на жывёлагадоўлі, якая так моцна зьвязана з ураджаем, з добрабытам гаспадара.

Агродапамога і с.-г. асьвета—гэта той шлях, па якому штодзённа ідуць да селяніна с-г. парады. З прыкладаў нашых культурнікаў відаць якую вялікую ролю ў разьвіцьці ўсіх гаспадарак мае асьвета.

Наша сялянства яшчэ мала карыстаецца навуковай дапамогай, а для пасьпешнага разьвіцьця гаспадаркі гэта абавязкова патрэбна. Патрэбна, каб асьвета была разам з селянінам ва ўсякі час і ўсюды і каб за асьветай сам селянін сачыў: у маленстве ў дзіцячых клюбах, дарослы ў с-г. гуртках, на розных с-г. выстаўках. Для больш дакладнага навучэньня ёсьць школы дарослых гаспадароў, сетка с-г. тэхнікумаў і, нарэшце, Беларуская с-г. Акадэмія ў Горках.

Часта самыя лепшыя замеры і пляны не даюць ніякае карысьці, калі няма сродкаў для іх здзяйсьненьня. С-г. крэдытовая коопэрацыя ў даным выпадку зьяўляецца патрэбнейшай і высокакультурнай дзяржаўнай установай.

Па матар'ялах, зьмешчаных у гэтым нумары „Плуга“, відаць вялізны рост с-г. крэдытаваньня. За 9 месяцаў г. г. крэдытовыя опэрацыі Белсельбанку і нізавой коопэрацыйнай сеткі павялічыліся ў чатыры разы. Дзяржаўныя сродкі на крэдыт дасягнулі даваенных лічбаў.

Нязвычайна шырока разгарнуў сваю працу Дзяржаўны Цэнтраземсклад.

Усё гэта разам паказвае на магутны рост нашае сельскае гаспадаркі.

На выстаўках у дзень „Сьвята Ўраджаю“ шмат сваіх дасягненьняў могуць паказаць сяляне, шмат чаму можна навучыцца аднаму ў другога.

Усім сялянам і ўсім культурным і агрономічным працаўнікам патрэбна быць на с-г. выстаўках у дзень „Сьвята Ўраджаю“. Усім трэба бачыць, якія дасягненьні да гэтага часу маюцца, трэба абмяняцца думкамі, наколькі ўсё гэта добра і пабудаваць пляны на далейшае ўзмацненьне і разьвіцьцё ўраджаю.

У абмене думак выкоўваецца культура народа, яго творчасьць.

Усякі спосаб палепшаньня ўраджаю ёсьць заваёва на культурным фронце, ёсьць крок уперад па шляху, які вызначаны Вялікай Кастрычнікавай Рэволюцыяй.

П. Рагавы.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Некаторыя вынікі працы Турскай дасьледчай станцыі.

Два галоўныя пытаньні цікавяць Турскую дасьледчую станцыю (пад Рагачовам): павялічэньне ўраджаю поля і павялічэньне кармовых сродкаў. З гэтаю мэтай станцыя вывучыла розныя папары і розныя кармовыя расьліны.

За мінулы працоўны год дасьледчая станцыя высьветліла, што занятыя папары карысны ня толькі ў параўнаньні з талочнымі, але і раньнімі чыстымі. Асабліва каштоўныя расьліны ў папары—бульба і грэчка. У гаспадарцы, дзе не стае летам корму, вельмі добры выка-аўсяны ці канюшынны папары. У гаспадарках, дзе мала жывёлы і гною, трэба сеяць лубін на ўгнаеньне папару, а гной вывозіць пад пасевы ярыны.

Вышукваньне лепшых спосабаў скарыстаньня папараў некаторымі сялянамі дашло ў паўднёва-ўсходняй Беларусі да таго, што яны з вялікім посьпехам у папары здымаюць два карані. Напрыклад, з вясны сеюць выку і ўбіраюць яе на зялёны корм ці сена, за ей сеюць грэчку ў сярэдзіне чэрвеня і, пасьля ўборкі яе на зярно, у палове жніўня сеюць жыта (гной у гэтым выпадку кладуць два разы: палову пад выку, палову пасьля ўборкі грэчкі).

Пасевы ў папары ў паўднёвай Беларусі магчымы, бо ліпнёвыя і жніўныя дажджы папаўняюць страту вільгаці ў глебе ад папярэдняга пасеву. Да таго-ж самы засеў жыта не баіцца некаторага спазьненьня, абы толькі рунь зьявілася да зімы.

Працуючы над высьвятленьнем спосабаў пасеву жыта, мы засьцерагаем гаспадароў ад густога засеву яго (на пустой зямлі густы пасеў дае дробны стракаты колас, а на ўгноенай жыта палягае). Карысьць радковага пасеву даводзіць само жыцьцё. Дасьледчая станцыя дала ўвясною суседзям-сялянам адзін сяўнік, які бярэцца на расхват.

Падрыхтоўка сартаванага насеньня вельмі пашырана. Дзякуючы правільнаму сартаваньню на дасьледчай станцыі, мясцовае жыта мае вялікія каласы і зёрны, чаму суседзі ахвотна і бяруць яго для засеву. Увосень бягучага году больш 80 сялян бралі для засеву жыта дасьледчай станцыі.

Назіраньні над зяблевай узоркай паказваюць, што яна вельмі важна пад бульбу, лубін, выку і пад белую ярыну. Пад грэчку не абавязкова патрэбна.

З палявых расьлін больш аплачваюць гной бульба, жыта, выка. Любіць сьвежы гной і белая ярына.

Аплата гною вышэй на пескавой глебе пры вывазе ня больш 60 вазоў на дзесяціну, чаму трэба вывазіць гною паменш, але часьцей. Шмат сялян, наадварот, вывозяць адразу ўвесь гной у папар ці пад бульбу.

З палявых расьлін дасьледчая станцыя найбольшае значэньне надае бульбе, як больш карыснай расьліне паўднёвай Беларусі.

З раньніх папарных сартоў лепш: проф. Сіманоўскі і кур'ер. З зімовых—чырвоны—Вольтман і белы—Рэйтан (усе яны размножваюцца дасьледчай станцыяй). У сялян няма добрых сартоў бульбы і культура яе слабавата.

Нястача кармоў улетку зьвязана з талакой, якая па падліку дае толькі каля 35 пуд. сена на дзес., між тым як пасевы выкі і канюшыны даюць на дзесяціну каля 200 пуд. сена, г. зн. у 6 раз больш.

Выка можа дапамагчы толькі як падкормка жывёлы, пасьвіць на ей нельга; за тое канюшына з аднолькавым посьпехам можа быць скарыстана і для выгану і для сенажаці. Асабліва лёгка сялянам мець палепшаныя выганы пасьля жніва, для чаго магчыма скарыстаць атаву канюшыны, ці ўсяваць для выпасу вясной сэрадэлю.

Канюшына—найбольш цэнная кармовая расьліна. Нават у дрэнным бягучым годзе канюшына дала за 2 ўкосы ўраджай вышэй, чым заліўныя сенажаці. У паўднёвай пескавой Беларусі канюшына з посьпехам пашыраецца на сялянскіх палёх. Можна спадзявацца, што недалёка той час, калі і тут, як у паўночнай сугліністай Беларусі, будуць лічыць канюшыну галоўнай кармовай расьлінай поля.

Канюшыну ўсяваюць у белую ярыну, можна і ў азіміну. Барануюць пасьля засеву лёгка адзін-два разы. На дзесяціну насеньня канюшыны трэба пуд. Пры шматгоднім карыстаньні канюшынай, прыбаўляюць да яе цімафейку. Насеньня мешанкі трэба 50 фунт.

У год пасеву, добра ўзросшую канюшыну можна крыху стравіць, у наступны год яна скашваецца два разы: вясной на сена, восеньню на насеньне. На трэці год скашваецца адзін раз вясной, пасьля чаго страўляецца. Атаву першака магчыма пакідаць на насеньне ў сумесі з цімафейкай, бо ўсё роўна пасьпявае толькі насеньне канюшыны, нават дзікія расьліны (акрамя павітухі і шчаўя) не даюць насеньня.

Канюшына патрабуе добрага поля, але не абавязкава вывозіць гной пад пакроўныя расьліны. Канюшыну лепш сеяць пасьля ўгноенай бульбы, па белай ярыне. Вільгаць для канюшыны больш патрэбна, як угнаеньне. Затым на высокіх узгорках канюшына рэдка бывае добрая, не ўдаецца яна і на нізінах з блізкай грунтовай вадой, а таксама на нізінных падзолах. На ўсіх гэтых месцах лепш канюшыну ня сеяць.

Пры пераходзе на шматпольле ў першую чаргу трэба правільна вырашыць пытаньне, ці можна сеяць канюшыну, а калі можна—ці на ўсіх палёх.

На тарфяністых, але ня надта ападзоленых нізінах лепш сеяць ружовую швэцкую канюшыну. На падзолістых землях пасьля ўзоркі і ўгнаеньня лепш закладаць шматгадовыя культурныя сенажаці.

На высокіх мясцох, як кармовая расьліна, лепш удаецца пялюшка, у нормальна вільготны год таксама выка і сэрадэля. Усе гэтыя аднагоднія кармовыя расьліны вельмі карысны. Пялюшка і выка дрэнна

высушваюцца на сена, іх лепш сушыць на козлах, але не на зямлі. Сэрадэля сохне вельмі хутка і козлаў не патрабуе, але ад дажджу лёгка псуецца.

На зялёны корм самыя высокія ўкосы дае мешаніна пялюшкі з выкай і аўсом у роўных частках (12-14 пуд. на дзес.). Сэрадэля ў чыстым пасеве ў працягу 4 год ні разу не была неўраджайная; лепшы ўраджай быў 400 пуд., горшы 200 пуд. сена на дзесяціну.

Усе гэтыя расьліны патрабуюць чыстае поле (лепш пасьля бульбы), зяблевую ўзорку, раньні засеў. Выка, акрамя таго, вельмі любіць гной.

Гной зьяўляецца самым цэнным неабходным угнаеньнем пескавых глеб, затым у гаспадарцы трэба гадаваць магчыма больш жывёлы (кароў), якая адначасна будзе перарабляць нашы продукты гаспадаркі ў мяса і малако.

Гаспадарка дасьледчай станцыі ўвесь час вядзе барацьбу за дарэмны гной і выгоднае скарыстаньне корму. За 3 гады дасьледчая станцыя ўтроіла ўдоі кароў, карыснасьць каровы (кошт малака за вылічэньнем расходаў на корм) таксама ўтроілася.

Гэтага мы дабіліся заменай грубога корму бульбай і корняплодамі разам з макухай і мукой, скарачэньнем дачы сена—саломынаогул, як кажуць, кармленьнем па вазе. Летам каровы карыстаюцца добрым выганам на нізінах і на палёх (па канюшыне). Далейшае палепшаньне ідзе ў напрамку гадоўлі цялят, палепшаньня кармушак, хлявоў, вадапою і г. д.

Вітаючы сялян з вялікім сьвятам „Дню Ўраджаю", дасьледчая станцыя спадзяецца, што ў будучым годзе працоўнае сялянства павядзе заўзятую працу за павялічэньне і палепшаньне кармовых запасаў і гною з мэтай павялічэньня продукцыйнасьці сялянскіх загонаў і жывёлы.

Агроном **А. Энгельгардт.**

(Турская дасьл. станцыя).

---

# Занятыя папары.

*(З вынікаў працы дасьледных установ).*

С.—г. дасьледчыя ўстановы СССР вырашылі галоўныя пытаньні сельскай гаспадаркі, якія неабходна нам шырока скарыстаць пры перабудове нашай сельскай гаспадаркі на новы лад.

Досьледамі агрономічных станцый даведзена, што лепшым спосабам павышэньня ўраджайнасьці зьяўляюцца чыстыя папары (чорны з асеньнім ворывам і раньні з вясеньнім ворывам), аднак зямельная нястача на Беларусі вымагае выключную ўвагу зьвярнуць на занятыя папары.

У нас на Беларусі гэта пытаньне вывучаюць усе с-г. дасьледчыя ўстановы. Вядома, яны толькі больш выразна і яскрава падкрэсьляць вынікі працы іншых дасьледчых установ, якія мы тут і будзем разглядаць.

Досыць параўнаць ураджаі азіміны на розных папарах, каб угледзіць неабходнасьць хутчэй адмовіцца ад познага папару і замяніць яго занятым, які дае два ўраджаі замест аднаго.

Ураджаі зярна і саломы ў пудох на дзесяціну за некалькі год.

| Дасьледчыя ўстановы. | Бульбяны папар. | | Выкааўсяны (вясен. ворыва). | | Выкааўсяны (асен. ворыва). | | Позны папар. | | Чорны папар. | | Раньні папар. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. |
| Дасьледчае поле Цімираз. с.-г. Акадэміі . . | 152 | 227 | 137 | 249 | 131 | 250 | 120 | 217 | 148 | 263 | 165 | 255 |
| Ўладзімірскае дасьледчае поле . . . | 138 | 225 | — | — | 135 | 237 | 129 | 195 | 169 | 299 | 165 | 277 |
| Кузьмадзям'янаўскае дасьледчае поле . | — | — | — | — | 50 [1] | 115 | 66 | 141 | 86 | 188 | 98 | 187 |
| Энгельгардтаўская дасьледчая станцыя . | — | — | 92 | 177 | — | — | 98 | 181 | 129 | 226 | 115 | 216 |
| Лашаўскае дасьледчае поле . . . . | — | — | — | — | 96 | 153 | 82 | 131 | 107 | 155 | 98 | 144 |
| Тульскае дасьледчае поле . . . . | 113,5 | — | — | — | 144 | — | 80 | — | 120 | — | 118 | — |

Занятыя папары адбіваюцца і на ўраджаі ярыны (аўса), якая дзе пасьля жыта, што відаць з наступнае табліцы.

Ураджаі аўса пасьля розных папараў (на дзесяціну).

| Дасьледчыя ўстановы. | Бульбяны папар. | | Выкааўсяны (вясен. ворыва). | | Выкааўсяны (асен. ворыва). | | Позны папар. | | Раньні папар. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. | Зярна. | Саломы. |
| Дасьледчае поле Цімираз. с.-г. Акадэміі . . | 116 | 134 | 116 | 138 | 117 | — | 123 | 142 | 121 | 137 |
| Ўладзімірскае дасьледчае поле. . . . | 136 | 139 | — | — | 111 | 112 | 118 | 131 | 133 | 134 |
| Энгельгардтаўская дасьледчая станцыя . | — | — | 126 | 130 | — | — | 116 | 122 | 124 | 126 |
| Лашаўскае дасьледчае поле . . . . | — | — | — | — | 63 | — | 62 | — | 65 | — |

Ураджай аўса на чыстым і позным папарах трохі вышэй, чым на занятых папарах, ня гледзячы на тое, што з апошніх зьнята два ўраджаі.

[1]) Пад досьледы ўгнаеньне ня клалася.

Чым-жа тлумачыцца такая ўраджайнасьць на розных папарах пры аднолькавай апрацоўцы глебы і адным угнаеньні?

Каб зразумець гэта, трэба азнаёміцца з тымі элемэнтамі, ад якіх залежыць ураджайнасьць. Адным з такіх элемэнтаў зьяўляецца вільгаць у глебе, без якой ні адна расьліна жыць ня можа. Наступная табліца паказвае ў процантах, колькі вільгаці траціць глеба ад высыханьня пры розных папарах (вынікі дасьледчага поля Ціміразеўскай с-г. Акадэміі).

| Папар. | За 7 год сярэднія. |
|---|---|
| Позны . . . | 62,3% |
| Выка-аўсяны . | 63,5 „ |
| Бульбяны . . | 53,3 „ |
| Чорны . . . | 42 „ |
| Раньні . . . | 41,6 „ |

Такім чынам, к канцу лета і пачатку пасева азіміны на папарах позным і выкавым глеба значна высушваецца ў параўнаньні з раньнім і чорным, толькі папар бульбяны займае сярэдняе месца. Страта вільгаці на позным і выкавым папарах, амаль у дзьве трэці ад усей вільгаці адбіваецца на ўраджаі азіміны, бо нават у дажджавое лета пасевы адчуваюць нястачу вільгаці. Пры дастатку ў глебе вільгаці, ўтвараюцца добрыя ўмовы для жыцьця карысных бактэрый, якія вырабляюць у глебе салетру—неабходную частку пажыву ўсіх расьлін. К пачатку пасеву азіміны на розных папарах знаходзіцца наступны лік салетры ў глебе:

| Папары. | Сярэднія за 5 г. Салетры ў пудох на дзесяц. |
|---|---|
| Позны . . | 10,2 |
| Выкавы. . | 12,9 |
| Бульбяны . | 17,3 |
| Чорны . . | 30 |
| Раньні . . | 30 |

І тут бульбяны папар займае сярэдняе месца.

Вядома, што пры такіх умовах вільгаці ў глебе і запасу патрэбных пажыўных матэрый азіміна і за ёй ярына на чыстым папары дадуць значна большы ўраджай у параўнаньні з позным і выкавым. Бульбяны папар дасьць сярэдні ўраджай, які павінен быць ніжэй ураджаю на чыстым папары і вышэй, чым на позным.

Колькасьць сарнякоў у пасевах таксама значна адбіваецца на ўраджаі. Сарнякі выцягваюць ваду і пажыў глебы, заглушаюць пасевы. Ураджай ад гэтага паніжаецца.

Наступная табліца паказвае вынікі працы дасьледчага поля Ціміразеўскае с-г. Акадэміі за 5 год, з якой відаць, што:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| позны папар | дае | за | лета | 69,3 | пуда | сарнякоў |
| выкавы | „ | „ | „ | „ | 35,6 | „ | „ |
| бульбяны | | „ | „ | „ | 15,3 | „ | „ |
| чорны | „ | „ | „ | „ | 16,9 | „ | „ |
| раньні | „ | „ | „ | „ | 25,2 | „ | „ |

Густы пасеў у папары, як выка, сам заглушае сорныя травы, а міжрадковая апрацоўка бульбянага папару і таго больш ачышчае поле ад сарнякоў. У гэтым ён прыбліжаецца да чыстых папараў, гдзе выключна апрацоўкай зьнішчаюцца сорныя расьліны.

Падлічым тыя лішкі ўраджаю, якія дае заняты папар у параўнаньні з звычайным позным сялянскім папарам (у пудох на дзесяціну).

| Дасьледчыя ўстановы. | Бульбяны папар. | | Выкавы папар. | Выкавы папар. |
|---|---|---|---|---|
| | Бульбы. | Бацьвін. | Вясен. апрац. | Асеньн. апрацоўка. |
| Дасьл. поле Ціміраз. с.-г. акадэміі . . . | 511,4 | 582,6 | 166,3 сена | 207,7 сена |
| Ўладзімірскае дасьледчае поле . . . | 224 | — | — | 153,1 „ |
| Кузьмадзям'янаўскае дасьледчае поле . | — | — | — | 162 „ |
| Лашаўскае дасьл. поле . | — | — | — | 136,3 „ |
| Энгельгардтаўская дасьледчая станцыя . | — | — | 33,4 сена | — |
| Тульскае дасьледчае поле . . . | — | — | — | 180 „ |

А калі ўсё гэта перавесьці на грошы па самым нізкім цэнам, то гэта дасьць наступны даход гаспадару (будзем лічыць бульбу па 30 к., а выку па 20 кап.).

| Дасьледчыя ўстановы. | Бульба. | Выка. | Выка. |
|---|---|---|---|
| Ціміразеўская с.-г. Акадэмія . . . | 153 р. 40 к. | 33 р. 86 к. | 41 р. 54 к. |
| Ўладзімірскае дасьледчае поле . . . | 67 р. 20 к. | — | 30 р. 62 к. |
| Энгельгардтаўская дасьледчая станцыя . | — | 26 р. 78 к. | — |
| Лашаўскае дасьледчае поле. . . . | — | — | 36 р. |

Атрымаць 30-40 руб. з дзесяціны папару мае для селяніна вялікае значэньне.

З занятых папараў вызначаюцца, такім чынам, бульбяныя папары.

Апрацоўку глебы пад бульбу ў занятым папары трэба пачынаць з восені, калі гаспадар мае больш вольнага часу. Увосень-жа патрэбна вывезьці гной і заараць яго на поўную глыбіню (3-4 вярш.). Вясной, як можна раней, поле ў другі раз арэцца вяршкі 2-3 і садзяцца раньнія сарты бульбы, як напрыклад: раньні ружовы, эпікурэец, шасьцітыднёвы, каб была магчымасьць раней яго прыбраць і падрыхтаваць поле пад засеў жыта.

Бульбу патрэбна садзіць як мага плытчэй пад плуг ці асыпнік. Ужо к моманту мяшаньня папару бульба павінна быць прыбрана з поля. Вось чаму гэты папар ужываецца дагэтуль поўнасьцю толькі пад го-

радам ці ў гаспадарцы, гдзе магчыма хутка маладую бульбу стравіць жывёлай.

Сяляне частку папару займаюць бульбай, а другую частку другой расьлінай, напрыклад выкай з аўсом. Папар пад выка—аўсяную мешанку пачынаюць апрацоўваць з восені так, як і пад бульбу, але ў некаторых мясцох ужываецца выка—аўсяны папар з апрацоўкай глебы і ўгнаеньнем вясной. Выку з аўсом таксама патрэбна сеяць раней, каб атрымаць поўны ўраджай сена.

Калі выка ідзе на зялёны корм, то можна параіць сеяць яе ў некалькі тэрмінаў, каб усё лета мець каштоўны і сьвежы корм. На лёгкіх пескавых глебах папар можна занімаць лубінам на зялёнае ўгнаеньне.

Пасьля ўборкі расьліны, якая часова занімала папар, поле пад азіміну можна араць адзін раз толькі на поўную глыбіню, але лепш перад асноўнай узоркай узлушчыць поле вяршкі на 2.

Зусім новыя папары ўводзяцца зараз дасьледчым полем Ціміразеўскай с-г. Акадэміі, гэта: аўсяна-жытны і выка-жытны. У гэтым разе мешанка аўса і жыта ці выкі і жыта высяваецца вясной і к восені звычайна ўбіраецца ўраджай на сена, але жыта ўжо другі раз ня сеецца. Зялёныя карані жыта ўвосень даюць атаву і на другі год жыта расьце нормальна.

Гэтым папарам надаюць вялікае значэньне, але пакуль што яны яшчэ ня вывучаны дасканала.

**А. Казлоўскі.**

---

# „Перадавы Беларус"

Пад такой назвай існуе адзін беларускі пасёлак у 4 вярст. ад мяст. Бялынычы, Магілёўскае акругі. Раней гэты пасёлак зваўся адным сапраўды беларускім словам „Адверніца". Гэта тая самая „Адверніца", ад якой адварачваліся ўсе—і пан і сялянства. А адварачваліся ад таго, што ўрочышча гэта вельмі дрэннае, глеба—цяжкі прыпадзісты суглінак, моцна ападзолены, а навокал непралазнае балота ды лагчыны, зарошшыя хмызьнікам.

За такой удачай нават зайздросны пан ня надта ганяўся і некалькі раз передаваў яе сялянству вёскі Ланькова. Сяляне раз-другі спрабавалі падняць аблогу і што-небудзь пасеяць, але палепшыць яе за далёкай адлегласьцю ад сядзібы было не магчыма—і зноў адварачваліся.

Так і ляжала гэта аблога пустэчай да 1922 году. А ў памянёным годзе, у час земляўпарадкаваньня в. Ланькова, знашлося 10 гаспадароў-сьмельчакоў, якія і ўтварылі пасёлак „Адверніца". Атрымалі яны на 66 душ 66 дзес. пахаці гэтае пекнае адверніцы, ды ў прыдачу 9 дзес. купчастага лугу, 3 дзес. балотнае сенажаці, ды 34 дзес. тарфянага балота, заросшага хмызьнікам, Ну,—думалі ўсе—закукуюць браткі адверніцу, ды ўжо і адвярнуцца ня будзе куды.

Але дзядзькі не рабелі. Пачалі шпарка будавацца на новым месцы і зараз-жа брацца за ўпартую працу. Сярод іх знашоўся адзін вясковы хлапец Ляксей Сталяроў, які ў 1921 годзе скончыў у Магілёве 4-х мес. с.-г. курсы. На гэтых курсах ён чуў, што „дрэннае зямлі няма, а ёсьць дрэнныя гаспадары". Чуў і яшчэ шмат чаго цікавага за 4 мес.



і цяпер пачаў аб усім тлумачыць сваім бацькам і дзядзькам. Паслухаліся старыя маладога, але адукаванага хлапца і рашуча распачалі ўпартую працу.

Каб павялічыць лік ворнае зямлі і палепшыць яе якасьць, пачалі спускаць дробныя балотцы і лагчынкі сярод палёў. З гэтаю мэтай у 1924 г. пракапалі 175 саж. канаў на полі. Для палепшаньня глебы пачалі спрабаваць угнойваць яе акром гною, лубінам і торфам. Упэўніваюцца грамадзяне, што парады „вучонага“ хлопца ідуць на карысьць, яны яшчэ больш уважліва прыслухоўваюцца да яго слоў і ўпарта праводзяць парады яго ў жыцьцё.

А хлапец ня траціць дарэмна часу і выдумляе ўсё новыя і новыя магчымасьці. Так, у 1924 г. ён разьмяркоўвае ўсю пахатную зямлю на 5 зьмен і пачынае, з дапамогаю ўжо агронома, заводзіць пяцёхпалёвы севазварот з наступным чаргаваньнем расьлін: 1) папар заняты—выка па гною на скос, а дзе гною нястача—лубін на ўгнаньне; 2) жыта, прычым палова поля падсяваецца канюшынай; 3) палова поля бульбы і палова канюшыны першага скосу; 4) палова поля каштоўнае ярыны і палова—канюшына другога скосу і 5) ярына.

У гэтым годзе ўжо ў належным месцы падсеяна канюшына і выдзелена асобнае бульбяное поле, а ў часе маёй прысутнасьці там заворвалася палова поля, засеяная лубінам, і частка з-пад выкі паднімалася пад жыта. Лубін, ня гледзячы на цяжкія прыпадлівыя глебы, вырас вельмі добры і можна з пэўнасьцю сказаць, што ў даным выпадку ён дасьць больш карысьці, чым гной, бо памалу перагніваючы ў такой глебе, ён доўгі час будзе падтрымоўваць у зямлі пульхнасьць і ня дасьць ёй злягацца зімою. Досьлед у такім напрамку ў гаспадарцы майго бацькі быў і даў добрыя вынікі. На працягу ўжо трох год частка поля з завораным лубінам выдзяляецца па ўраджайнасьці ад рэшты поля, дзе быў паложан гной і засеяна выка на скос.

Але хлапец не задавальняецца адной працай у полі. Невялікая плошча пахатнае зямлі (па 1 дзес. на едака) прымушае яго, разам з сялянамі, паклапаціцца аб будучыне сваіх дзяцей. Вось і рашылі яны кінутыя 34 дзес. балота, дзе ня можна было хадзіць, нават, жывёле, зрабіць культурнай плошчай. Уласным разуменьнем і рукамі ён праэктуе сетку асушыльных канаў і з вясны гэтага году грамадзяне прыступаюць да капаньня галоўнае магістральнае канавы. За вясну гэтага году ўжо прарыта 400 сажн. канавы шырынёю і глыбінёю ў 1 саж. Палова балота, каля 15 дзес., ужо асушана і на ім сьмела гуляе жывёла.

Разам з асушкаю балота вядзецца карчаваньне і падчыстка. Выцерабілі хмызьнік ужо на 15 дзес., а на—15 дзес. падчысьцілі лепшыя бярозкі і цяпер тамака выглядае пекная малодзенькая бярозавая рошча. Толькі 4 дзес. засталіся незачэпляныя працавітаю рукой, але за восень і яны будуць прыведзены да ладу і будуць выкапаны 280 саж. канавы.

На вясну будучага году застанецца ўсяго зрабіць каля 300 саж. канаў на балоце і 180 саж. на полі, канчаткова спусьціць дробныя палявыя балотцы.

Асушанае балота ўжо ўвосень сяляне наважваюцца зараўняць баронамі ці якім небудзь іншым спосабам, зраўняць балотныя купіны і пасеяць вясной выку з аўсом.

Уцягнуўшыся ў працу, сялянства кажа: „Няма чаго цяпер нам адварачвацца і звацца адваротнямі, а трэба ісьці ўперад“ і на сходзе пастанавілі назвацца перадавымі беларусамі, даўшы гэту назву і свайму пасёлку. Канаве-ж свавей хлапец Сталяроў хоча даць імя Наркома Земляробства тав. Прышчэпава, але мне здаецца, што дзядзька Прышчэпаў пераўступіць гэта права тав. Ляксею Сталярову.

Хутчэй-жа, браткі балотаў і „адверніц“, імкнецеся за „Перадавым Беларусам!“

**М. Лайкоў.**

---

# Апавяданьне старога селяніна з-па-над Сожа аб сваёй гаспадарцы.

На запытаньне „Плуга“ аб тым, як я атрымаў 400 руб. прыбытку ад аднае дзесяціны поля, як з цягам часу разьвівалася мая гаспадарка, якія думкі мной увесь час кіравалі і г. д. мне прыдзецца зложыць даволі доўгае апавяданьне.

Раней мы жылі на вёсцы. Вёска наша вялікая, мае шмат зямлі, але зямля ўся дрэнная, пескавая. Дрэнна родзіць, шмат пескавых выдмаў. Мой бацька меў два надзелы зямлі, лічыўся заможным селянінам. Меў хлеба на пражытак у дастатку, меў скаціну, пчолак у калодах, але ўсё-ж жыцьцё гэта мяне мала задавальняла. Каб мець які небудзь дастатак, трэба было ўвесь год працаваць ад цёмнага да цёмнага і працаваць завіхаючыся.

Асабліва стала цяжка, калі я пабываў за межамі Расеі і пабачыў, як добра на зямлі жывуць людзі. Захацелася мне мець добрую гаспадарку. Той час я думаў, што патрэбна мець многа зямлі. Вось і стаў я яе шукаць. У выніку, праз нейкі час купілі мы усёй грамадой у суседняга пана яго маёнтак.

Спачатку жыцьцё палепшылася. Былі добрыя выганы для жывёлы. У маёнтку было шмат лясоў, якія ён прадаў разам з маёнткам жыду, дык мы зараблялі ў жыда ў лесе, а потым распрацоўвалі ляды, гдзе атрымоўвалі добрыя ўраджаі.

Гэтак прашло гадкоў 15. І не забачылі мы, як хутка распрацавалі ўсе лясы. Застаўся толькі комітэтам забаронены лес. А гэтым часам наша надзельная зямля нагэтулькі спусьцела, што вецер у адным месцы расшугаў пескавую выдму дзесяцін у 200. Шмат зьявілася выдмаў і ў другіх мясцох. Частку палёў прышлося закінуць назаўсёды. А вецер усё шугаў і заносіў новыя плошчы поля, адрываў кожны год канцы паласы, іншы раз напалову. Па ўсіх дарогах, дзе ганялі скаціну парабіліся выдмы. Выдмы абкружылі ўсю вёску шырокай паласой.

К гэтаму часу падасьпела Сталыпінская рэформа. Усе мы ўхапіліся за яе, шукаючы ў ёй абароны ад пяскоў. І тады ўжо некаторыя гаспадары бачылі ўсё зло, якое рабілі пяскі. Але пакуль было ўсё агульнае, пакуль была далёкапалосіца, пры якой немагчыма было угнойваць далёкія шнуры, ніхто не адважваўся выйсьці на працу, каб перешкодзіць дрэнным учынкам ветру сярод пяскоў.

Аб хутары мы думалі, што ён прыблізіць да двара гаспадара зямлю, што кожны старанны гаспадар не дапусьціць больш такое нядбайнасьці, каб вецер раздуваў яго пяскі. Здавалася, што і пяскі мы пера-

вернем у добрыя глебы. Мне ўжо марылася тое шчасьце, якое я бачыў за межамі і якое ніколі не давала мне спакою, аб якім я марыў, як аб раі.

У 1912 годзе нам нарэзалі хутары на самым дальнім вучастку, які ніколі ніхто не ўгнойваў, і на якім сеялі толькі грэчку і жыта. Тут мне далі 28 дзес. ворнае зямлі і каля 1 дзес. рэдкага хмызьніку на забалочанай нізінцы. Акрамя гэтага ў 8 вёрст. далі 3 дзес. забалочанае сенажаці (расьце толькі асака), блізка там-жа, у 7 вёрст ад хутара далі 4 дзесяціны балота і ў 5 вёрст. 8 дзес. пяску на выдме. Ад пяску я зараз-жа адмовіўся на карысьць вёскі, а на астатняй плошчы пачаў будавацца і гаспадарыць.

Спачатку было дрэнна. Трэба было будавацца. Ня было гароду, застаўся ў вёсцы сад, цесна было са скацінай. Бабы ні за што не хацелі ісьці на хутар—баяліся ваўкоў, зладзеяў і таго, што ня будзе з кім і пагутарыць.

Але зараз-жа ўсё ўладзілася. На пабудову далі падмогу ад казны, зрабілі мы сабе вялічэзны гарод, куды ўкладалі спачатку ўвесь гной, засадзілі сад, управіліся таксама і з скацінай. У нядзелю ў нас зьбіралася шмат гасьцей паглядзець наша жыцьцё, ды і суседнія хутары былі зусім блізка.

Зараз-жа зьявіўся да нас агроном, і пачаў ён нам казаць, як лепей пабудаваць гаспадарку на хутары. Даў паспрабаваць на полі штучныя мінэральныя ўгнаеньні, лубін на ўгнаеньне, пасеў канюшыны, турнэпсу, травы пайдзы і г. д.

Аднак, раю я тут не знашоў ніякага. Глеба была настолькі зьнішчана, што нічога на ёй не радзіла, Жыта давала 25-30 пуд. з дзес., грэчка як выпадзе, бульба, авёс, ячмень, проса сеялі толькі на гнаі і то расло дрэнна. Канюшына не хацела расьці нават на гнаі ў гародзе. Пайдза вырасла надта добра, добра яе ела скаціна, але нажаль мы не змаглі дабыць у сябе яе насеньня і яна зьвялася.

Адным словам, у пачатку мала штозьмянілася. Але-ж жыцьцё стала лягчэй. Працы збавілася амаль што напалову. Аднаго сына з шасьці ўзялі на вайсковую службу, а два пашло вучыцца ў горад і ўсё-ж я пасьпяваў спраўляцца з зямлёй з астатнімі сынамі.

Праз два гады здарылася вайна, усіх дарослых сыноў пабралі ў войска. Астаўся я адзін з меншым сынам. Цяжка стала апраўляцца. Аб палепшаньні зямлі ня прыходзілася думаць. Зьвёўся і лубін у гаспадарцы.

Скончылася вайна, усе сыны вярнуліся да гаспадаркі. Заняпалая гаспадарка засмучала ўсіх. Падымалася гутарка аб перасяленьні. Толькі той сын, які к часу вайны скончыў настаўніцкую сэмінарыю, чытаў кніжкі па сельскай гаспадарцы, нешта думаў, вылічаў, а потым запрапанаваў заставацца на месцы і брацца за будову культурнае гаспадаркі. Нарэшце давёў нам, што едзе вучыцца ў Маскву ў с.-г. Акадэмію, і паехаў.

Прашло яшчэ два гады. Сын з Масквы пісаў, што трэба рабіць, каб палепшыць гаспадарку. Летам прыяжджаў і прапанаваў увесьці правільны севазварот.

Але цяжка было ўвесьці тыя севазвароты, якія ён прапанаваў. Для выкананьня іх то не хапала гною, то скарачаўся немагчыма які-небудзь пасеў і г. д.

Нарэшце, у 1920 годзе ён, прыехаўшы дамоў, доўгі час хадзіў па полю, капаў ямкі і глядзеў глебу, а потым запрапанаваў наступны свой

севазварот, які мы зараз-жа і ўвялі. Усё поле разьбівалася на 2 кавалкі, кожнае з асобным севазваротам.

I. васьмёхпольле на бліжнім больш пагноеным кавалку.

| | | |
|---|---|---|
| | Папар | |
| 1 | 1. лубінавы | па штучн. угнаеньні. |
| | Жыта | |
| 2 | 2. з падсевам сэрадэлі. | |
| 3 | 3. Корняплоды па гнаі. | |
| | Ярына | |
| 4 | 4. з падс. сэрад. | з падс. канюш. |
| 5 | 5. Бульба па гнаі. | Канюшына I г. |
| 6 | 6. Выкав. мешаніна. | Канюшына II г. |
| | Жыта | |
| 7 | 7. з падсевам сэрадэлі. | |
| 8 | 8. Лубін на насеньне (альбо грэчка). | |

II. 3-хпалёвы севазварот на дальнім бязгнойным кавалку.

| | |
|---|---|
| 1 | 1. Лубін і сэрадэля на насеньне. |
| 2 | 2. Лубін на ўгнаеньне. |
| | Жыта |
| 3 | 3. з падсевам сэрадэлі, |

Стары ўклад гаспадаркі мала зьмяняўся. Між тым абодвы севазвароты ставілі сваёй мэтай ня толькі палепшаньне ўраджаю на гэты год, але і палепшаньне самое глебы. Тое, што не зьмяшчалася ў севазваротах, мы сеялі ў гародзе. Зараз-жа набылі ўсё патрэбнае для запаўненьня севазваротаў. Працы прыбавілася шмат, але па ўсіх падліках выходзіла, што па новаму больш выгодна гаспадарыць.

Шмат чаго мы перапрабавалі ў першыя два гады. Спрабавалі адзін торф на ўгнаеньне, торф з гноем, торф прапушчаны праз хлеў, торф з крэйдай, попел з печы, попел з торфу. Раўналі розныя папары: чорны, раньні, заняты лубінам, заняты бульбай. Сеялі радковым сяўніком і г. д. Са ўсяго гэтага ababралі наступнае: тарфяны гной і лубін на ўгнаеньне, занятыя лубінам і сэрадэляй на сена папары, сэрадэля ў падсеве пад жыта і радковы пасеў.

Дрэнна было спачатку з гэтым лубінам. У пяршыню ў нашай мясцовасьці сталі мы яго разводзіць, ня ведалі як з ім абходзіцца.

Чакалі, калі ён пасохне зусім, а ён пасьля гэтага як пачне страляць, дык нібыта войска. Шмат рассыпалася насеньня. Ня ўмелі мы яго хаваць зімой. Псавалася насеньне. Асабліва цяжка было яго ўбіраць. Ён цьвярды і моцна колецца сваімі дзюбкамі на стручках. Бабы проста бедавалі, калі прыходзіла пара ўбіраць. Зараз мы яго зьбіраем крыху зелянейшы і жнём сярпамі.

Але прызвычаіліся і да яго. Цяпер у нас на хутары і сапраўды добра. Няма ніводнага кавалка зямлі пустога. Калі не збажына якая пасеяна, дык лубін расьце. У папары па жыце два пасевы расьце ў адзін год. Зямля ад гэтага ня толькі ня пусьцее, але паляпшаецца з кожным годам. Праўда, вельмі паступова.

За тое-ж колькі задаваленьня, асабліва нам старым. І тут калісьці вецер шугаў пяском, а зараз сінім і жоўтым морам хвалюецца лубін, тоўстай шкуркай прыкрывае зямлю густая сэрадэля. Мне зараз 72 гады, а я амаль што кожны дзень не магу ўстрымацца, каб не прайсьці паглядзець на поле. Паміж працы часок на гэта сам выпадае.

У бягучым годзе сэрадэля густым пасевам дала 200 пуд. сена і 70 пуд. насеньня. Калі падлічыць усё гэта, дык і будзе 400 р. прыбытку з дзесяціны: насеньня 70 пуд. па 5 руб.=350 руб., сена 200 пуд. па 30 кап.=60 р. Жоўты лубін даў больш 4000 пуд. зялёнае масы, сіні 3000 пуд. У гэтым годзе ў першы раз даволі добра вырасла на полі і канюшына.

Уся збажына значна палепшылася. Жыта дае 30—50 пуд., бульба да 500—600 пудов з дзес. Растуць ужо на полі авёс, ячмень, проса і пшаніца. Грэчка ўдаецца кожны год. А сэрадэлю проста цяжка пакасіць і ўбраць.

Дрэнна ў нас справа са скацінай, але і тут разам з тым, як сталі ў нас расьці добрыя кармы на полі, пачынаецца палепшаньне. Разгортваецца і мая старыкоўская праца. Той маленькі хмызьнічок, які нам дастаўся, зараз зрабіўся ляском. У ім мы маем пад маім наглядам пасеку ў 30 рамовых вульляў. Узімку сыны робяць вульлі, а ўлетку я наглядаю за пчоламі. Зьбіраем пудоў да 30 мёду. Пасеку ўсё яшчэ разводзім.

І не адзінока ў нас на хутары. Сяляне ня толькі ў нядзелю, але і будні заходзяць, каб паглядзець, што і як расьце. Зайздросьцяць, асабліва на сэрадэлю (сенажацяй у нашых сялян надта мала) і шкадуюць, што ў празпалосіцы нельга яе сеяць ні ў папары, ні падсевам—стравяць. Бываюць зараз да нас і экскурсыі. Агроном лічыць нашу гаспадарку лепшай ва ўсім сваім раёне і абяцае даць прэмію.

Сяляне адносяцца добра. Нядаўна толькі ў сувязі з земляўпарадкаваньнем у вёсцы паднята пытаньне, каб нашу сенажаць і балота ўвесьці ў плян разьмежаваньня. Вядома, шкада нам і гэтага, на балоце мы ўжо частку распрацавалі пад сенажаць, а на другой частцы добра расьце алешнік, але зараз можна згадзіцца і на гэта. Вось зямлі ворнае, дык нават бабы нашы кажуць, што замнога для нас, бо надта-ж ім надаеў ужо лубін.

Дык вось толькі калі я знайшоў гэта задаваленьне. Раю, аб якім я марыў, няма, бо надта многа прыходзіцца працаваць, за тое зараз усё ёсьць і як паглядзіш, усё хутка, паляпшаецца. Здаецца, яшчэ-б пажыць гадкоў з дзесятак які, каб дачакацца, калі прыдуць на дапамогу нам розныя машыны, аб якіх увесь час мараць мае сыны і я разам з імі.

**П. Вітаўскі.**

# Гаспадарка селяніна Сяргея Мукамолава.

*(Гарадзецкі раён, Бабруйскае акругі).*

Год пятнаццаць таму назад пры разьмеркаваньні вёскі на хутары, селяніну Мукамолаву дасталася самая горшая зямля. Гэта быў пясок ды падзол. У вёсцы яна лічылася няўдобіцай і была закінута. На ёй рос сівец і яшчэ некалькі пескавых расьлін. Не хацелася Сяргею садзіцца на ёй, але рабіць ня было чаго.

Усяго дасталося Сяргею 19 дзес. ворнай зямлі, ды каля 10 дзес. балота. Хутар вялікі, але страх было брацца за працу.

Дзякуючы парадзе агронома і выкарыстоўваючы свой вопыт, пачаў гаспадарыць Мукамолаў. Гною не хапала, за тое балота блізка. Вось і стаў ён біць двух зайцаў зразу: і балота асушваць і торф скарыстоўваць. У працягу 3-4 год вывозіў торф на поле і ўслаў зямлю досыць тоўстым слоем. Пачаў сеяць жыта, авёс, бульбу і нават канюшыну. Спачатку ўсё расло зусім слаба, а авёс з канюшынаю амаль што прападалі. Цёмныя думкі апанавалі селяніна, але-ж павароту ня было. Толькі праз 4 гады зямля крыху зраўнялася. Торф зьмяшаўся з зямлёю, ападзоленая глеба стала пухкаю і мякчэйшай.

Тады гаспадар залажыў васьмёхполку. Хоць памалу, але ўсё-ж справа пасоўвалася ўперад, бо Сяргей упарта працаваў. І гэта праца перамагла і пясок, і падзол, і глыбы торфу. Ужо перад вайной Мукамолаў меў добрыя ўраджаі.

А там пачаў заводзіць сартавое насеньне. Зараз Шацілаўскі авёс у яго дае да 100 пуд. з дзес., жыта 70—80 пуд., пшаніца 70 пудоў, бульба (Вольтман) да 600 пуд. Акром канюшыны, сеецца выка і сэрадэля. Як кажа Мукамолаў, выгадней пакідаць канюшыну на насеньне. Кавалак чырвонай канюшыны ў 1/4 дзес. здаволіў яго патрэбы і яшчэ на продаж засталося каля 3 пуд. насеньня. Павятовы зямельны аддзел плаціў Мукамолаву па 25 пуд. жыта за 1 пуд насеньня канюшыны.

Селянін Сяргей надае вялікую вартасьць насеньню. Ён выбірае на насеньне самае лепшае збожжа. Абранае на насеньне збожжа асобна зжынае, звозіць і ў першую чаргу малоціць. Старанна ахоўвае яго ад насеньня сарнякоў. На полі мала зельля. У 1923 г. ён выстаўляў сваё насеньне на с.-г. выстаўцы ў Гомлі (жыта, авёс і канюшыну). За добрае насеньне ён атрымаў камандыроўку на Ўсесаюзную выстаўку ў Маскве і дзесяціну добрае сенажаці.

Насеньне-ж прэміравана і залічана сартавым з мэтай абмену акалічнаму жыхарству. Летась ужо ім выменена каля 250 пуд. жыта і 200 пуд. аўса.

Балота Мукамолаў адразу ўзараў і засеяў мешанінай траў, пасьля чаго сена значна палепшылася і павялічылася колькасьць яго. Нават куп'ё ён не пакінуў. Гэтыя кратавіны ды мурашнікі ён пазразаў, зложыў у кучы на 2—3 гады і затым раськідаў на полі.

Зараз не хапае гаспадарцы жывёлы. Але гаспадар разважае так: „лепш трымаць добрай жывёлы мала, чым благой шмат: толькі працы каля яе шмат“. Мукамолаў трымае жарабка „Ардэна“ і быка—швіца, па якім лічыцца ў яго злучны пункт, дармовы для беднаты.

Зараз гэта ўзорная гаспадарка, асобна па паляводзтву. Акалічнае жыхарства часта наведвае Сяргея і раіцца з ім. На хутары былі члены ЦВК Расіі, члены Губіспалкому Гомяльшчыны і мясцовая ўлада.

**Сьц. Кот.**

# Гаспадарка Янкі Шоцкага з вёскі Новыя Тарасавічы.

*(Асіповіцкі раён, Бабруйскае акругі).*

У тав. Шоцкага 5 душ сям'і, усе працаздольныя. Мае 6 дзес. пахаці і 3 дзес. сенажаці. Зямля да 1924 г. была ў вясковай церазпалосіцы, у 13 кавалках. У 1924 годзе вёска Н. Тарасавічы перашла да 4-хпольля: 1) папар заняты выкаю, сэрадэляй і пялюшкай; 2) азіміна; 3) бульба і 4) ярына.

Такі севазварот і ў Шоцкага.

Шоцкі першы раз пазнаёміўся з агрономіяй у 1922 годзе, калі яшчэ вёў сваю гаспадарку на трохпольлі. З 1923 году ён пачынае кіравацца агрономічнымі ўказаньнямі ў сваёй гаспадарцы. Перш ён закладае паказальны гарод па новаму спосабу і ў першы-ж год з 1/40 часткі дзесяціны ён атрымаў буракоў 62 пуды і морквы 91 пуд. 22 фун. Капуста дасягала 34 фун. адна галоўка. Уся гародніна, як цыбуля, фасоля, гуркі і інш. дала такое павышэньне ўраджаю ў параўнаньні з іншымі гародамі, якога стары Шоцкі як радзіўся ня бачыў.

Папарнае поле Шоцкі падзяліў на некалькі вучасткаў:

1) Раньні папар па гнаі; 3) Позны папар па гнаі:
2) Чорны " " 4) Раньні папар бяз гною і
5) Заняты лубінам папар.

Глеба супяшчаная. Вынікі атрыманы такія: жыта па гнаі на першым вучастку дало 88 пуд. 15 фун. на дзес.; на другім вучастку—77 п. 33 ф.; на трэцім—32 пуд.; на чацьвертым—39 пуд. і на пятым—84 пуды.

К вясне 1924 г. Шоцкі ўжо зрабіў парніковую градку, з якой для сябе меў і другім даваў капусную расаду. Цяпер ён штогод мае свае высадкі ўсялякай гародніны. Засадзіў Шоцкі і сад у 52 дрэвы яблык і ігруш, якія сам выгадаваў. У гэтым годзе гарод у Шоцкага, як ні ў каго. Суседзі бяруць з яго прыклад і 3/4 вёскі завялі ўжо гарод па новаму.

У жывёлагадоўлі Шоцкі таксама першы. Хлявы ў яго ўцепляныя. Мае 3 каровы, бычка, цялушку, кабылу, жарабка 2-х год, 6 шт. сьвіней і 8 авечак. Адну карову-швіца вагою да 35 пуд. на пашу не пушчае, а корміць усё лета з рук выкаю, сэрадэляй і пялюшкаю, а ўвосень лісьцямі буракоў і капусты. Іншы раз папасе ў гародзе ці пры дарозе. Карова гэта дае зараз 30 фун. малака, корміць сям'ю гаспадара і яшчэ застаецца на продаж. Злучана яна зноў са швіцам.

Летась Шоцкі на с.-г. выстаўцы ў Асіповічах атрымаў першую прэмію за гародныя экспонаты і збожжа. У прэмію Шоцкаму далі 1 плуг. Да сёлетняй выстаўкі Шоцкі зноў рыхтуецца.

Гарод дае Шоцкаму штогод да 100 руб. апрача таго, што скарыстоўвае сам буракі і моркву на корм жывёле. Прадае ўсё на шкляной гуце „III Комінтэрн“ і ў мяст. Асіповічах. Да гуты з Н. Тарасавіч 9 вёрст і да Асіповіч 22 в. Ён прадаў насеньня сэрадэлі 5 пуд., выкі 12 пуд. і пялюшкі 8 пуд.

У хаце Шоцкіх таксама відаць чыстату і парадак. Усё ў гаспадарцы робіць сам Янка: калёсы, сані і інш. Ён чытае с.-г. кнігі і часопісь „Плуг“. Можна спадзявацца, што гаспадарка Шоцкага з бегам часу ўсё будзе ісьці ўперад па шляху прогрэсу і будзе ўзорнай гаспадаркай.

Шоцкі зьяўляецца актыўным сябрам с.-г. савету Асіповіцкага раёну.

Райагроном **П. Сяргэйчык.**

---

# Гаспадарка селяніна Цімоха Савельева.

(*Вёска Загаранка Чаускага раёну, Магілёўскае акругі.*)

Селянін Савельеў мае ад роду 57 год. З моладу да 28 г. быў парабкам у маёнтку. У 1901 г. Савельеў, як і іншыя сяляне, атрымаў на выкуп зямлю і пачаў уласнае гаспадараваньне, асяліўшыся ў в. Загаранка. Незаможнасьць, а гэтак жа і вясковыя ўмовы старога часу, не давалі вясьці гаспадарку так, як-бы гэтага хацеў гаспадар. Але прышла рэволюцыя і вёска стала перабудоўвацца на новы лад. У 1922 г. в. Загаранка была перабудована, праўда, у не зусім выразную форму, у нешта сярэдняе паміж хутарамі і пасёлкамі. *) Пры перабудове вёскі Савельеў атрымаў 7 дзес. пахаці і $1^1/_2$ дзес. сенажаці, ды ўзгоркаў-пералескаў (пашы) $1^1/_2$ дзес.

Уся гэта зямля ляжыць у адным месцы. Глеба—лёгкі суглінак на морэне, мясцовасьць высокая.

Пабудаваўшыся на адным кавалку, Савельеў адразу ўводзіць у сябе дзевяціпалёвы севазварот, з наступным чаргаваньнем культур.

| 1-е поле | 2-е поле | 3-е поле | 4-е поле | 5-е поле | 6-е поле | 7-е поле | 8-е поле | 9-е поле |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Папар чорны з гноем. | Жыта з падсевам канюшыны. | Канюшына 1 г. | Канюшына 2 г. | Лён і авёс. | Папар лубінавы і выкавы. | Жыта. | Бульба па гнаі і турнэпс. | Авёс. |

Важна адзначыць, што селянін Савельеў дашоў да гэтага севазвароту сам, без парад агронома. Праўда, цяперашняя сям'я мае бібліотэчку пераважна па сельскай гаспадарцы, у якой налічаецца да 700 томаў літаратуры. І вось, з дапамогаю кнігі і газэты ўдалося паставіць гаспадарку на належны грунт.

Прыведзены севазварот ужываецца ад вясны 1922 году—гэта знача чацьверты год. Зараз ураджай на дзесяціне ў сярэднім такі.

| Жыта | Авёс | Бульба | Канюшына | Ячмень | Пшаніца | Турнэпс | Лён на валакно | Лён на семя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 90 п. | 80 п. | 700 п. | 275 п. | 80 п. | 70 п. | 1000 п. | 20 п. | 20 п. |

---

*) Зямля разбіта на хутары, але ёсьць агульны выпас.

У мінулым годзе была падсеяна ў пшаніцу сэрадэля, якая дала добры ўраджай сена, але на насеньне высьпеліць яе не ўдалося, а вясною гэтага году не было гдзе купіць насеньня, дзякуючы чаму сэрадэля не была пасеяна.

З севазвароту відаць, што ў гаспадарцы ёсьць чорны папар, ёсьць гэтак-жа занятыя лубінам, выкай з аўсом папары і наогул трэба сказаць, што тэхніка апрацоўкі поля ў гэтай гаспадарцы вядзецца па навейшаму слову навукі. Гной кладзецца сваечасова, поле лушчыцца двухлямешным лушчыльнікам, сваечасова арэцца, барануецца і г. д.

У Савельева ёсьць такія свае ўласныя машыны: плуг Сакка-Рэнэ № 7, звычайны лёгкі сялянскі, жалезная барана, саломарэзка, корнярэзка, мялка, мёдагонка, запарнік, сэпаратар Дзябава і купленыя хаўрусам малатарня, арфа, прапашнік і двухлямешны лушчыльнік. Усе гэтыя машыны і прылады здабыты бо.ьшасьцю ў апошнія гады.

Адведзеная Савельеву сенажаць была з куп'ём і лазой. Цяпер яна выглядзіць зусім іначай. Перш былі выкарчаваны ўсе кусты і зрэзаны купіны. Вясною ўся плошча гэтае сенажаці забаранавана ў 4 сьляды бараною Аўраса (з саўхозу) і ўгноена попелам па разрахунку 60 пуд. на дзесяціну *). Пасьля гэтага ўраджайнасьць сена паднялася на 50 проц., а якасьць яго на 75 проц.

Ёсьць у гаспадарцы гарод у 1/4 дзес. (за ім наглядае гаспадыня). Тут растуць культуры, якія маюць галоўным чынам прамысловы характар; гадуюцца высадкі капусты, морквы, турнэпс, бручка, розныя буракі і інш. Выводзяцца такія расьліны, як каляндра, чарнушка, ёсьць гэтак-жа гуркі, тыква, сланэчнік, гарох цукровы, фасоля розная і бабы. Трэба сказаць, што як ва ўсёй гаспадарцы, гэтак і ў гародзе вядзецца яшчэ самая ўпартая барацьба са шкоднікамі.

Старэйшы сын Савельева—настаўнік—залажыў сваю пладовую школку. Ужо ёсьць прышчэпы, якія ў наступным годзе будуць скарыстаны на закладку саду, а сама школка застанецца ў гаспадарцы, як прамысловая ўстанова.

У дапамогу па адбудове гаспадаркі стары Савельеў займаецца яшчэ пчалярствам, робіць сам рамовыя вульлі сыстэмы Дадан-Блатт. Ёсьць некалькі вульлёў калодных і інш. сыстэм для параўнаньня. Усяго ў гаспадарцы пчол дзевятнаццать вульлёў, пчалярства вядзецца культурна, па указаньням Кунаховіча, Цысельскага і інш.

У бібліотэцы ёсьць бадай усе кнігі, якія дзе небудзь былі надрукованы па пытаньням пчалярства.

Сяляне прыходзяць да Савельева за парадамі, як па пчалярству, гэтак і наогул па ўсім пытаньням сельскае гаспадаркі.

У раёне гаспадарка Савельева лічыцца культурна-паказальнай. Летась за паляводзтва на выстаўцы гаспадарка атрымала прэмію.

Выпісвае Савельеў часопісь „Плуг“ і газэту „Бедната“.

**А. Дземідовіч.**

---

*) Попел бралі на Чаускім тартаку.

# Як атрымаць добрае валакно лёну.

Калі лён ужо сабраны і абмалочаны галоўкі, тады гаспадар цікавіцца, як атрымаць больш добрага валакна. Якасьць жа валакна залежыць ад таго, як вырабляецца лён.

Пачаткам апрацоўкі зьяўляецца падрыхтоўка лёну для аддзяленьня валакна ад ільняных сьцяблоў. Гэта дасягаецца тым, што мочаць лён або сьцеляць на зямлі. Мачэньне лёну можа быць або ў цякучай вадзе рэчак, або ў стаячай вадзе вазёр ці адмыслова зробленых капаніцах (сажалках). Але не ва ўсіх гэтых мясцох мачэньне лёну дае добрае валакно. Дла атрыманьня добрага валакна патрэбна, каб вада была мяккая, чыстая, мала мела вапны і жалеза.

У мясцох з блізкай глінай і чырвоным пяском вада заўсёды дрэнная для вымачкі лёну, бо тут бывае шмат жалеза, што шкодзіць аддзяленьню валакна ад сьцябла.

Лепш мачыць лён у цякучай вадзе. Для гэтага робяць з жэрдак скрынку (мал. 1) даўжынёй прыблізна 6 арш., шырынёй 3 арш. і вышынёй 1—1½ арш. Дно скрынкі лепш зрабіць з дошак (каб яно было шчыльнейшым). Перад укладаньнем у яе лёну, трэба адабраць большыя сьцяблы ад меншых. Снапы шчыльна ўкладаюць у такую скрынку, камлямі ў бок сьценак, а зьверху пакрываюць вяршкоў на 1—1½ саломай. На салому кладуць жэрдкі і зьверху накладаюць каменьні, набракшыя вадой абрубкі дрэў ці дзёран, пакуль уся скрынка ня будзе затоплена ў вадзе.



Мал. 1. Скрынка для мачэньня лёну.

Калі такіх месц для мачэньня лёну няма, то трэба капаць ямы-капаніцы. Такія капаніцы-сажалкі абсаджваюць навокал альхой. Велічыня іх бывае розная, у залежнасьці ад колькасьці лёну. Часьцей бываюць 1½ саж. шырынёй і да 2½ саж. даўжынёй. Для мачэньня ў такіх капаніцах снапы лёну ўкладаюць шчыльна, упіраючы карэньнем у сьценкі, а можна снапы і ставіць, а далей робяць так, як і ў першым выпадку. Быстрыя рэчкі зусім ня годны для мачэньня лёну.

Трэба глядзець, каб лён не перамок, бо тады ён робіцца слабым, пасьля апрацоўкі пухлявым, траціць „палоску“ і амаль увесь ідзе ў пакульле.

Дрэнна таксама, калі лён і не дамокне. У гэткім выпадку валакно дрэнна адстае ад сьцябла, бывае жорсткае, на ім трымаецца шмат кастрыцы, чаму амаль усё зсякаецца пры далейшай апрацоўцы.

Лепш за ўсяго, калі лён вынуты з вады ў час. Скорасьць мачэньня залежыць ад пагоды. Калі цёплая пагода і цёплая вада, то лён можа быць гатовы праз 12 дзён, а калі халодна. праз 4 і больш тыдняў. Калі вада мае 18° R, то лён можа вымакнуць праз 9 10 дзён. Каб у час вынуць лён, трэба кожны дзень браць жменю сьцяблоў, высушваць іх і мяць. Калі валакно добра і лёгка аддзяляецца ад сьцябла, то лён пара вымаць.

Дастаўшы лён з вады, сьцелюць яго на лужайцы, каб прасох і трохі выбеліўся. Пасьля прасушкі зьвязваюць у снапы і звозяць.



Мал. 2. Мялка з чугуннымі зубчатымі вальцамі.

Гэта так робіцца пры вадзяным мачэньні, але ў нас часьцей лён сьцелюць (расяное мачэньне). Лепшым месцам для сланьня лёну трэба лічыць роўныя сенажаці і канюшынішчы. Ніколі ня трэба слаць лён па ржэўніку, бо тады валакно бывае вельмі дрэннае (пакрываецца іржою). Сьцелюць лён увосень ці вясной.

Лён сьцелюць радкамі на паверхні сенажаці роўным пластам не таўсьцей $^1/_2$ в. Калі пагода вільготная і цёплая, то лён можа выляжацца праз 3 тыдні, а калі сухая, то павінен ляжаць значна больш. У час лёжкі лепш перавярнуць лён хоць адзін раз на другі бок, ён тады раўней адлежваецца. Час прыбіраньня яго азначаецца таксама, як і пры вадзяным мачэньні.



Мал. 3. Трапалка простая.

Пасьля мачэньня лён сушаць, мнуць і трэплюць, каб аддзяліць валакно ад сьцябла. Мяць можна рукамі, але лепш машынай, бо яна добра ломіць сьцябло на кавалкі, не расьцягвае і ня рве валакно. Работа нашых простых мяліц дрэнная і ад яе трэба адмовіцца. Значна лепшыя вынікі даюць мяліцы з драўлянымі зубчатымі вальцамі, а яшчэ лепшыя—з чугуннымі зубчатымі вальцамі (мал. 2). Хоць і гэтыя машыны прыводзяцца ў рух рукамі, але за тое работа іх лепшая. Мяты лён трэплюць рукамі, або машынамі· Трапаньнем канчаткова выбіваюць кастрыцу, а дасягнуць гэтага можна толькі тады, калі лён браць невялічкімі жменькамі. У трапаньні лёну мае значэньне форма трапалкі (падобна да нажа, крыльля матыля. Гл. мал. 3 і 4). Атрэпаны лён лічыцца гатовым на продаж, але выгодней гаспадару зрабіць сартаваньне яго, што ў нас бывае рэдка. Часьцей гаспадар прадае яго не сартаваным, што вельмі ня выгодна.



Мал. 4. Трапалка палепшаная.

Абагульнім-жа ўсё так:

1. Лён перад мачэньнем неабходна сартаваць.
2. Лепшым месцам для мачэньня лёну будзе цякучая вада.
3. Трэба сачыць за часам вынаньня лёну.
4. Лепш слаць лён на сухіх сенажацях і канюшынішчы.
5. Трэба пераварачваць лён у часе ляжаньня.
6. Лепш мачыць і слаць лён вясной, але ня ўвосень.
7. Лепшымі лічацца мяліцы з чугуннымі зубчатымі вальцамі.
8. Трэба зьвяртаць увагу на трапаньне.
9. Прадаваць лён толькі сартаваны.

**А. Савельеў.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

# Як павялічыць ураджай бульбы.

Бульба зьяўляецца галоўнай асыпнай культурай Беларусі. Яна займае свыш 10% пасяўной плошчы. У Палесьсі бульба займае звыш 16% пасяуной плошчы. Ураджайнасьць бульбы ў умовах нашай сельскай гаспадаркі вельмі нізкая—у сярэднім па Б.С.С.Р. 550 пуд. з дзес. Культура бульбы мае вялікае значэньне для сельскай гаспадаркі: яна павялічвае кармовыя запасы, дапамагае пашырэньню гадоўлі сьвіней і г. д. Бульба зьяўляецца рыначнай культурай Б.С.С.Р.




Ураджай бяз гною і бяз ворыва на зябь. Ураджай пры ворыве на зябь.




Ураджай па гнаі бяз ворыва на зябь. Ураджай пры ворыве на зябь.

Пры нашым малазямельлі і лішках рабочай сілы патрэбна пашырэньне такіх расьлін, на культуру якіх трэціцца шмат працы на малой плошчы зямлі. Бульба і зьяўляецца ў умовах Беларусі такой культурай, якая патрабуе найбольшую колькасьць рабочых рук (60—75 рабочых дзён на дзес., авёс-жа і ячмень толькі 14—15 дзён).

Для гаспадароў цікава ўжываць такія тэхнічныя спосабы, якія маглі-б павысіць ураджайнасьць бульбы.

Па досьледам Турскай с.-г. дасьледчай станцыі (Бабруйская акруга) ураджай бульбы заўсёды павялічаецца ад ворыва на зябь. Ураджай бульбы пасьля такой воркі на неўгноеным полі большы на 240 пуд., на угноеным-жа—на 378 пуд., або на 40%. Дзякуючы ворцы на зябь з восені ржэўнік добра пераправае. Ад гэтага ў зямлі бывае шмат перагною і пажыўных матэрый, якія карысны для яравых засеваў і асабліва для бульбы. Пры асеньняй ворцы насеньне дзікіх траў прарастае, а калі наступяць замаразкі, яны гінуць. Такім чынам, усе пажыўныя матэрыі, не скарыстаныя дзікай травой, застаюцца ў зямлі. А вясной яны будуць скарыстаны бульбай, якая дасьць павышаны ўраджай на 30—40%.

Ворку на зябь трэба рабіць раней. Глыбіня яе павінна быць 4 вярш. Уплыў гэтай воркі на ўгноеным полі лепшы, чым на спустошаным, бо яна дапамагае лепш раскладацца гною. Ворка на зябь дае ўраджай бульбы на ўгноеным полі на 378 пуд. больш, чым на няўгноеным. Асеньняя ворка на зябь дапамагае вясеньняй і такім чынам бульбу можна пасеяць у час. Ворка на зябь у сярэднім павышае ўраджай бульбы на 300 пуд., што пры нашай цане (20 кап. за пуд) дае 60 руб. Сама праца ў асеньнюю пару можа быць ацэнена ў 3—4 руб.

Агроном **Б. Бабіцкі.**

(Турская дасьл. стан.).

---

# Ад чаго зводзяцца цэнныя сарты збожжа.

Насеньне расьлін—гэта плады, якія вырастаюць пасьля зараджэньня, як і ўсё жывое. Робіцца гэта такім парадкам. Сьпелы пылок, які знаходзіцца ў жоўтых мяшочках, што вісяць на каласе ў час красаваньня, напрыклад, жыта, (мужчынскі элемэнт) пападае на рыльца плодазавязі (жаночы элемэнт), якое знаходзіцца на тым жа каласе жыта ў выглядзе чырвонаватых нітачак, праходзіць у глыбіню плодазавязі і злучаецца з так званай родавай клеткай. Пасьля гэтага пачынаецца рост зародка. Такое зараджэньне завецца апылкаваньнем.

Калі ў расьлін крыжавое апылкаваньне, ці іначай кажучы, на плодазавязь адной расьліны пападае пылок з другой, то патомства такіх расьлін можа ўнасьледаваць адзнакі як адной, так і другой расьліны. Пылок у гэтакіх выпадках пераносіцца ветрам, альбо з некаторых расьлін кузуркамі (пчолы, мухі, матылі і інш). Калі цэнны сорт збожжа сеяць побач з кепскім, то патомства першага будзе насьледаваць адзнакі горшага сорту і з цягам часу цэнны сорт можа зьвясьціся. Жыта зьяўляецца тыповым прадстаўніком расьлін, у якіх бывае толькі крыжавое апылкаваньне.

У тых выпадках, калі расьліны апылкоўваюцца сваім уласным пылком (самаапылкаваньне), патомства ня траціць адзнак гэтае рась-

ліны і гаспадару тады ня трэба баяцца, што сорт можа зьвясьціся ад апылкаваньня чужым пылком. Да збожжа, якое апылкоўваецца само, належаць ячмень, пшаніцца, авёс.

Але і тыя тыповыя расьліны, якія апылкоўваюцца сваім пылком, таксама часта трацяць сваю якасьць у сялянскіх гаспадарках і з цягам часу зусім зводзяцца.

У чым-жа тут справа?

А вось у чым. Па большай часьці нашы, не прашоўшыя праз адбор сарты, ужо самі па сабе ня чыстыя і зьяўляюцца па сутнасьці мешанінаю розных сартоў. Калі збожжа стаіць на полі, то ў той час вельмі лёгка заўважыць рознастайнасьць такога сорту, бо асобныя расьліны адрозьніваюцца адна ад другой. Тут поруч з цэннымі расьлінамі сустракаюцца расьлі ы нежаданых сартоў. Гэтыя-ж малацэнныя расьліны заўсёды бываюць больш трывалымі; чым горшыя культурныя ўмовы гаспадркі, тым болей яны ўмацоўваюцца і тым хутчэй зьністажаюць цэнныя сарты.

Сартаваньне насеньня ў гэтакіх выпадках затрымоўвае хуткае зьністажэньне цэнных расьлін малацэннымі, бо пры сартаваньні з насеньня адбі аюцца дробныя і лёгкія зярняты, якія па большай часьці належаць да малацэнных расьлін.

Гаспадаром-жа трэба вельмі ўважліва сачыць за тым, каб да збожжа цэннага сорту не папала збожжа іншых сартоў, напр., мясцовых сялянскіх, якія па большай часьці зьяўляюцца малацэннымі, хаця і бываюць больш трывалымі, бо ад гэткага падмешваньня цэнны сорт толькі хутчэй зьвядзецца.

Сеючы-ж адборным насеньнем можна не баяцца, што, узросшы, горшыя расьліны павыпіхваюць цэнчыя, бо адборныя сарты заўсёды вылучаюцца з якога небудзь аднаго сорту. Расьліны-ж слабейшыя, якія часам сустракаюцца ў адборным сорце, заўсёды бываюць таго-ж самаго племя, якога і іншыя расьліны, але не разьвіваюцца так, як іншыя дзеля якіх небудзь дрэнных умоў. Калі засеяць насеньнем з такіх расьлін, то патомства вырасьце па сваім адзнакам гэтакае-ж, як і ад расьлін здаровых.

За расьлінамі, у якіх бывае толькі крыжавое апылкаваньне, трэба ўважліва наглядаць, каб яны не апылкоўваліся пылком расьлін іншых сартоў, што можа лёгка здарыцца, калі тое-ж самае збожжа, але толькі іншых сартоў, будзе расьці недалёка.

Не зрабіўшы ніякай прадасьцярогі ад гэтага, можна чакаць, што неўзабаве самы найцэнны сорт выраздзіцца ў звычайны мясцовы.

З усяго вышэйнапісанага відаць, што гаспадар, які хоча мець цэнны для сваёй гаспадаркі сорт збожжа, павінен:

1) не дапушчаць засьмечваньня яго мясцовым збожжам;

2) сартаваць насеньне, адкідаючы гэтым самым дробныя зярняты, якія належаць да расьлін нежаданых і малацэнных;

3) паляпшаць сваё поле і гэтым даваць расьлінам цэнных і жаданых форм лепшыя ўмовы ўзросту;

4) выбіраць заўсёды адборныя сарты, якія апрабаваны на с-г. дасьледчых станцыях і

5) ня сеяць блізка сарты з крыжавым апылкаваньнем каля мясцовых сартоў такога самага віду.

Г. Рэго.

(Горкі, с-г. Акадэмія).

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Аб жывёлагадоўлі на Беларусі.

Павялічэньне ўраджаяў нашых палёў у значнай меры памагае разьвіцьцю жывёлагадоўлі на Беларусі і наадварот.

Масавае разьвіцьцё жывёлагадоўлі ідзе вельмі паступова. Але прыдзе час разьвіцьця сельскае гаспадаркі, калі разам з высокімі ўраджаямі палёў, сяляне будуць мець штодзённыя высокія ўраджаі ў жывёлагадоўлі ў выглядзе высокіх удояў малака, вялікага прыросту мяса і сала кормнае жывёлы, магутнай сілы рабочых коняй і г. д.

Пакуль што, перад жывёлагадоўляй стаяць доўгія гады працы па падбору, падрыхтоўцы і зьбіраньню лепшай, найбольш адпавядаючай нашым патрэбам жывёлы і адшуканьню лепшых спосабаў яе разьвядзеньня.

У мінулым ніякай працы ў гэтым напрамку не вялося. Толькі ў апошнія спакойныя гады Савецкай улады гэта праца распачата.

Так, праведзена рэгістрацыя вытворн каў—жарабкоў, быкоў, кнуроў. На гэту працу мясцовыя агрономы, жывёлаводы, вэтэрынары зьвярнулі належную ўвагу з мэтай дапамагчы сялянам правільна ў іх-жа інтарэсах скарыстаць гэты матар'ял для адраджэньня іх сладаў. Усяго зарэгістравана да гэтага часу 1180 жарабкоў, 350 быкоў і некалькі дзясяткаў кнуроў.

Для стварэньня новых вытворцаў вялася пропаганда, каб сяляне з дапамогай крэдыту браліся за вырашчваньне лепшых бычкоў ад найлепшых малочных кароў.

З мэтай пераканаўньня сялян у карысьці лепшага кармленьня і ўтрыманьня скаціны, асабліва малочных кароў, праводзілася паказальнае кармленьне і паказальнае палепшаньне хлявоў. Гэтыя мерапрыемствы праведзены ва ўсіх акругах на асыгнаваныя ўрадам сродкі. Шмат сялян бачылі, як агроном у 2-3 тыдні павялічваў удой і дабіваўся больш таннага вырабу малака каровамі праз тое, што часткай замяняў грубы корм макухай, корняплодамі і інш. Шмат сялян пераканаліся, што ў халодным хляве зімой траціцца задарма дзясяткі рублёў.

На выстаўках, курсах, гутарках, лекцыях і ўсюды, вясковыя працаўнікі імкнуліся высьветліць сялянам значэньне тых ці іншых спосабаў жывёлагадоўлі.

З мэтаю разьвіцьця сьвінагадоўлі, якая мае адыграць вялізарную ролю ў сельскай гаспадарцы Беларусі, закуплена некалькі кнуроў ангельскай пароды, узмацніліся племянныя гаспадаркі па расплоду сьвіней.

Па конягадоўлі пашырылася дзейнасьць дзяржаўнага коннага заводу „Вялень".

Ведаючы, што без коопэрацыі паасобныя сялянскія гаспадаркі мала могуць зрабіць, працаўнікі зямельных устаноў і с.-г. коопэрацыі

імкнуліся прывясьці сялян да аб'яднаных спосабаў палепшаньня жывёлагадоўлі: напрыклад, стварэньня коопэрацыйных злучных пунктаў з быкамі, жарабкамі і кнурамі; стварэньня масларобных хаўрусаў, кантрольна малачарных таварыстваў і інш.

Каб гэтыя мерапрыемствы замацаваць, каб пасунуць далей разьвіцьцё жывёлагадоўлі, разьмяркован на бліжэйшую будучыню плян працы НКЗ па ўсім галінам жывёлагадоўлі. На кожны год высоўваецца цэлы шэраг мерапрыемстваў, разьлічаны сродкі, якія будуць патрэбны для іх выкананьня, як з боку дзяржаўнага бюджэту, гэтак-жа і з боку акруговых і раённых сродкаў і сродкаў с.-г. крэдыту.

Лік гэтых мерапрыемстваў надта вялікі, пералічваю галоўныя з іх: упарадкаваньне і ўмацаваньне злучных пунктаў; набыцьцё вытворнікаў; дапамога па вырашчваньню ў саўхозах, аб'яднаньнях і сялянскіх гаспадарках новых вытворнікаў; павялічэньне с.-г. крэдыту для сялян на набыцьцё вытворнікаў; рэгістрацыя каштоўных вытворнікаў і дапамога ўласьнікам іх у справе ўтрыманьня для коопэрацыйнага карыстаньня ў вясковых стадах.

Паказальныя мерапрыемствы будуць праводзіцца ў значным ліку з дапамогай сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Намячаецца паказальнае кармленьне ў 920—1200 гаспадарках і паказальная перабудова хлявоў у 200—300 гаспадарках.

Пабудова штогодна 10 паказальных сялянскіх хлявоў з мэтай азнаёміць пасялкоўцаў з адпаведнымі правільнымі будынкамі для прыбытковай жывёлагадоўлі.

Паказальнае вырашчваньне племяннога маладняку, паказальны адкорм сьвіней, апрабаваньне коняй і інш.

Культурна-асьветная праца на 30 курсах і 30 выстаўках штогодна, на шматлікіх гутарках, лекцыях і інш.

Разьвіцьцё сеткі масларобных хаўрусаў да 500 за пяць год, каб павялічыць выраб масла для гандлю і гэтым павялічыць даход малачарнай гаспадаркі.

Вельмі патрэбная організацыя контрольных таварыстваў будзе падтрымана асыгнаваньнем сродкаў для забясьпекі контрольнымі прыладамі працаўнікоў таварыстваў, лік якіх трэба давесьці хаця-б да 130 за пяць год.

З мэтай дапамагчы пашырацца беларускай чырвонай жывёле будзе падтрымоўвацца праца сялян Самахвалавіцкага раёну, Менскай акругі, па разьвядзеньню гэтае мясцовае жывёлы, дзеля чаго на плямхоз Калініна ўскладаецца абавязковае вырашчваньне вытворнікаў, штогодна па 20 быкоў і абавязковая навукова-завадзкая праца па далейшаму палепшаньню чырвонае жывёлы.

Падстава прамысловай сьвінагадоўлі—расплод ангельскіх сьвіней—робіцца асяродкам увагі НКЗ і с.-г. коопэрацыі; будзе падтрымоўвацца і пашырацца вытворчая дзейнасьць урадовых і коопэрацыйных племянных гаспадарак з ангэльскімі сьвіньнямі, дзеля чаго будзе набывацца племянны матар'ял з Англіі.

Будуць пабудованы два сьвіных заводы з 30 маткамі-іоркшырамі і будзе з'організавана 520 злучпунктаў з кнурамі.

Для наладжаньня збыту продуктаў сьвінагадоўлі высоўваецца проэкт пабудовы двух бэконных фабрык, якія будуць апрацоўваць продукты водлуг запатрабаваньняў рынку.

Каб палепшыць якасьць сялянскіх авец прадугледжваецца закупка ангельскіх і раманаўскіх баранаў для стварэньня аўчарань і злучпунктаў.

Таксама адносна палепшаньня птушак прадугледжваецца закупка для птушкаводных гаспадарак пародзістых курэй і гусей.

У конягадоўлі для павялічэньня ліку вытворнікаў адпаведных напрамкаў і парод будзе наладжвацца супольная закупка вытворнікаў і вырашчваньне іх сваімі сіламі, для чаго конны завод будзе скарыстаны магчыма шырэй і паўней.

Усе гэтыя галоўныя мерапрыемствы разам з агульнай шырокай працай самадзейных сялян і вясковых працаўнікоў пры ўмовах лепшых форм землекарыстаньня і больш сьвядомай і правільнай працы і ёсьць шлях да дабрабыту сялянства, шлях ажыцьцяўленьня найлепшых лёзунгаў, з якіх найбольш падыходзіць да сучаснага моманту кліч да падняцьця ўраджаю.

Агроном **Ластоўскі**.

---

## Паштовая скрынка.

Тав. **С. Сялюкіну**. Часопісь (№ 7 і 8) Вам зноў выслалі. Артыкул наконт культурніка не атрымалі, а „Лён-даўгунец“ зьмяшчаем у гэтым №.

Тав. **П. Фірсаву**. „Закладка пладовага саду ў Беларусі“ перадалі ў газэту „Б. В.“

Тав. **А. Дабравольскаму.** Па школьным і інш. пытаньнях зьвярнецеся да сваее мясцовае ўлады. Адказ на іншыя Вашы пытаньні глядзеце ў „Парадах агронома“ гэтага нумару.

Тав. **А. І. Лазоўскаму** Пытаньне аб угнаеньні вытлумачана ў артыкуле „Аб часе і спосабах заворваньня гною“ (часоп. „Плуг“ № 6, стар. 9) і таму „Аб угнаеньні гароду“ ня пойдзе.



# САДОЎНІЦТВА

## Нашы дасягненьні ў садоўніцтве.

Пладовы сад служыць гаспадару ў працягу ўсяго яго жыцьця. Разьвіцьцё саду і карысьць ад яго ў далейшым будуць галоўным чынам залежыць ад таго, наколькі правільна будзе закладзен сад. Дзеля гэтага пры закладцы саду патрэбна гаспадару добра ўзважыць усё, што ўплывае на разьвіцьцё саду.

Досьледамі Горацкай садовай станцыі і нагляданьнямі лепшых беларускіх практыкаў-садаводаў Я. Мароза (селянін Бачэйкаўскага раёну) і Качаноўскага (каля Дрыбіна) да гэтага часу ўстаноўлены прыблізна наступныя асновы закладкі пладовага саду.

1. *Сарты.* Як ужо пісалася ў „Плузе" (№ 4 ст. 21) для ўсходняй часткі рэспублікі (Віцебшчына і Магілеўшчына) лепшымі і трывалымі зімовымі сартамі яблын будуць: антонаўка-камянічка, антонаўка белая, бабушкіна, чорнагуз; асеньнімі—штрэйфлінг (асеньняе паласастае), харламаўка і летнімі—ружовае, белае салодкае, цынамонавае паласастае (для варэньня). Для заходняй і паўднёвай часткі Беларусі да зімовага асортымэнту можна дадаць і пэпін літоўскі.

Але скажам адкрыта: Меншчына, Бабруйшчына, Случчына і Мазыршчына ў садаводным напрамку зусім не дасьледаваны і мы засьцерагаем урадовыя, коопэрацыйныя і прыватныя пладовыя выхавальнікі ад той адказнасьці, якую яны бяруць на сябе перад нашым сялянствам.

2. *Выбар месца пад сад.* Трэба выбіраць вышэйшы пункт рэльефу, можна садзіць на схілах, але ніколі на нізіне. Ёсьць шмат нізінных с.-г. раёнаў (падглебная вада бліжэй ад 1,5 мэт.) на дзесяткі кілёмэтраў удоўж і поперак, дзе новыя сады (яблынь, ігруш) праз 15 20 г. загінуць. Зьвяртаю ўвагу на гэта ўсіх культурных гаспадароў Беларусі і прашу: *ратуйце наша сялянства ад гібельных крокаў закладаньня новых садоў на нізінах.* Тады на працягу бліжэйшых 5-10 год падаруеце народнай гаспадарцы шмат мільёнаў рублёў.

3. *Адлегласьць паміж дрэвамі.* Адлегласьць паміж радкамі яблынь павінна быць ад 8 да 13 мэтраў (12-20 арш). Для антонаўкі ў Горацкім раёне на глыбокіх лёэсавых глебах новыя сялянскія сады заложаны на 15-20 арш. Памылку, зробленую з гушчынёй пасадкі пладовых дрэў, ніколі нельга будзе паправіць.

4. *Падрыхтоўка плошчы пад сад.* Плошча пад сад павінна быць падрыхтавана загадзя за 2-3 гады культурай бульбы (па гнаі), гароху, выкі. Ня трэба капаць глыбокіх ям, а лепш садзіць зусім плытка, разгарнуўшы трохі паверх глебы (абы зьмесьціліся карэньні).

5. Паміж маладых дрэў ніколі ня сейце жыта, пшаніцу і іншыя каласковыя расьліны і канюшыну, а заўсёды гародніну—бульбу, гарох,

выку. Можна трымацца гэткага севазвароту: 1) лубін, 2) бульба, 3) гарох, 4) капуста з гуркамі (пад гной).

6 Кароны маладых дрэў антонаўкі лепш вывадзіць у садзе на вышыні 1¼ мэтра (2 арш.) з 3-х галін (а не 5 па звычайнаму). На вышыні 1 арш. ад ніжэйшага яруса можна вывесьці другі паверх таксама з 3-х сучкоў. Ніколі не пакідайце развілак. Дрэвы наогул выводзяцца для нашага клімату вельмі густымі. Нашы досьледы ў гэтым напрамку вызначаюць, што лепшыя плады мы атрымаем ад дрэў і расьлін з найменшым лікам галін і лісьця (ігруша-дуля Остзэйская, садовая суніца „Юкунда“).

7. Дзічкамі для пладовых дрэў у Беларусі лепшымі лічацца: Кітайка, Сібірка, мясцовая лясная дзікая яблыня і антонаўка. На дзічкі трэба зьвяртаць увагу, бо ў іншым выпадку сад у 15-20 год з добрымі штамбамі і пышнымі каронамі пачне звальвацца. Гэта зьявішча мы бачым цяпер сярод былых панскіх садоў Беларусі (Аршанская і Бабруйская акругі). Загэтым усім, хто купляе дрэвы на кірмашы, трэба зьвяртаць увагу ня толькі на сорт, але і на дзічкі.

**М. І. Бурштэйн.**

(Горкі, с-г. Акадэмія).

---

# Як узгадаваць пладовыя дрэвы ў сваёй гаспадарцы.

Кожны гаспадар хацеў-бы пасадзіць у сябе сад, але бяда ў тым, што часта няма дзе купіць прышчэпаў, бо школак у нас пакуль яшчэ мала, ды й ня кожны селянін мае на гэта грошы. У такіх выпадках ён сам можа ўзрасьціць у сябе дома прышчэпы, а як гэта зрабіць, мы зараз і пагутарым.

Каб мець прышчэпы, перш гадуюць дзічкі, да якіх прышчэпліваюць адпаведны сорт. Для дзічак лепшым насеньнем лічаць насеньне дзікай ляснойі яблыні, кітайскай яблыні і дзікай ігрушы. Высяваецца пладовае насеньне вясною.

Каб зьберагчы і падрыхтаваць насеньне да часу высеву, яго перамешваюць з добра прамытым вільготным, але ня мокрым рачным пяском (на адну частку насеньня бяруць 3-4 часткі пяску). Потым кладуць яго ў скрынкі або гліняныя гаршкі с дзіркамі на дне, каб сьцякала лішняя вада, і закопваюць на зіму няглыбока ў зямлю. Тут насеньне можа нават і прамерзнуць, што робіць добры ўплыў на яго ўсходжасьць. Костачкі вішань і сьліў перш добра прамываюць, потым сушаць 2-3 гадзіны на сонцы і, калі яны ўжо патрэскаюцца, іх перамешваюць з пяском і далей робяць, як і ў першым выпадку. Костачкі трэба чым раней перамешваць з пяском, інакш яны могуць страціць усходжасьць.

Вясною, як толькі насеньне прарасьце, яго зараз-жа трэба пасеяць на грады ў школках.

Школка складаецца з двух частак: 1) вучастак, дзе высяецца насеньне і вырашчваюцца дзічкі, так званая школка размножаньня і 2) вучастак, дзе перасаджаныя дзічкі прышчэпліваюцца, надразаюцца і дзе фармуецца крона—школка выхаваньня.

Поле пад школку трэба добра ўгноіць, вырабіць і ачысьціць ад дзікіх траў. Перад закладкай школкі на месцы, прызначаным пад яе, у працягу 2-3 год сеюць бульбу, корняплоды, капусту. Вырабляецца поле добрым плугам на глыбіню 4-5 вярш. Рана вясною, як толькі прасохне зямля, у школцы робяць грады ў 1 мэтр ($1^1/_2$ арш) шырыні, папярок град праводзяць барозны на 4 вярш. адна ад другой і глыбінёю каля 1 вярш. У гэтыя барозны высяваюць насеньне, зярно ад зярна прыблізна на вяршок. Калі зьявяцца усходы і на іх вырасьце па 2 лісьцікі, то карысна іх перасадзіць на другую граду. Сюды іх высаджваюць папярэчнымі радкамі так, каб адлегласьцьць паміж імі была 4 вярш. Перад пасадкай укарачваюць караанькі ўсходаў прыблізна на палову. Такая перасадка з укарачваньнем каранькоў завецца пікіроўкай і робіцца дзеля таго, каб дзічкі мелі добрыя карэньні. Пасьля перасадкі сеянцы паліваюць вадой і прыценіваюць ад сонца саломай ці ўтыкаюць паміж імі галіны дрэў. Паліваюць па меры патрэбы і, калі сеянцы прыжывуць, то прыцяненьне далей ім не патрэбна. Сьлівы і вішні ніколі не пікіруюцца.



Мал. 1. Падрэзка караня маладога ўсходу.

Калі сеянцы не пікіруюць, то раіцца падрэзаць іх каранькі на градах. Для гэтага бяруць востры нож, утыкаюць яго ў касым напрамку пад карэньні ўсходаў на глыбіню каля 2-х вярш. (мал. 1) і пераразаюць корань. Пасьля гэтага зямлю раўнуюць, а ўсходы добра паліваюць вадой. Пры гэтым насеньне трэба сеяць у баразьне радзей на $1^1/_2$-2 вяршкі адно ад другога, а пасьля ўсходы прарываюць так, каб сеянцы ўрадку былі адзін ад другога на 3-4 вяршкі.



Мал. 2. Дзічкі 1-га, 2-га і 3-га сорту.

Увосень, калі рост дзічак спыніцца, іх выкапваюць і сартуюць. Да першага сорту адносяць тыя, якія маюць добрыя карані і ствол таўшчынёю каля 1 сант., горшыя да другога сорту, самыя-ж слабыя да трэцяга сорту (мал. 2). Дзічкі першага сорту зараз-жа пасьля сартаваньня пераносяцца на другі вучастак школкі (выхавальнік) і высаджваюцца радкамі на 10 вярш. адно ад другога і на $1^1/_4$ арш. радок ад радка. І цяпер у дзічак укарачваюць карэньні. Пры пасадцы глядзяць, каб карнявая шыйка была на $^1/_2$ вершка вышэй паверхні зямлі. Пасьля пасадкі дзічкі трэба добра паліць і зямлю паміж радкамі

перакапаць. Дзічкі другога сорту саджаюць у школцы размножаньня на старое месца; адлегласьць паміж дзічкамі ў радку 6 вярш. і паміж радкоў 4 вярш. У школку выхаваньня яны перасаджваюцца толькі на другі год увосень.



Мал. 3. Паростак з прышчэплянага вочка пасьля прывязкі да шыпа.

На другі год летам высаджаныя ў школку выхаваньня дзічкі прышчэпліваюць.*) Увесь дагляд за імі ў гэтым годзе складаецца з поліва і пульхненьня зямлі.

Вясною на трэці год, яшчэ да распусканьня лісьця, зьнімаюць перавязкі з прышчэпляных вочак, пакідаючы пянёк даўжыні вярш. 3; усе дзікія парасткі, якія могуць зьявіцца на дзічцы, зразаюць, а да пянька прывязваюць паростак, які вышаў з прышчэплянага вочка (мал. 3). У сярэдзіне лета, калі прышчэплены паростак зусім акрэпне, пянёк зразаюць, а рану замазваюць садовай замазкай або смалою (мал. 4). Увосень будзем мець сартавое дрэва, якое завецца прышчэпленай аднагодкай. Калі дзічкі былі добрыя і поле ўгноенае, то аднагодкі дасягнуць такой вышыні, што вясной наступнага (4-га) году ўжо можна фармаваць карону. Карона фармуецца на вышыні 1 мэтр. 17 см. ($1^3/_4$ арш). Вышэй гэтага месца адлічаюць шэсьць вочак і верхавіну аднагодкі зразаюць вышэй шостага вочка, а пянёк пакідаюць у 8-13 см. (2-3 вярш.). З пянька зразаюць усе вочкі і потым да яго прывязваюць паростак, што пойдзе з шостага пучка. Гэты паростак дасьць працяг ствалу, а з усіх бакавых парасткаў выйдуць галіны кароны.

У сяредзіне лета аднагодка будзе мець ніжэй кароны на пяньку шмат вочак, з якіх пачалі расьці бакавыя парасткі. Вясною, калі




Мал. 4. I—правільны зрэз.
II—няправільны (касы) зрэз.
III—няправільны (высокі) зрэз.

пачынаюць з'яўляцца гэтыя парасткі, іх зразаць ня трэба, бо яны дапамагаюць большаму ўтаўшчэньню пянька. Калі-ж парасткі пачы-

*) Як робіцца вочкаваньне можна прачытаць у № 7 „Плуга“.

наюць хутка расьці, то ім адшчыпваюць канцы. Зразаюць-жа іх часткаю ў сярэдзіне лета, а часткаю наступнай вясною. Паросткі трэба зразаць роўна, пры самым пяньку.

Але бывае, што ня ўсе аднагодкі дасягаюць такой вышыні, каб можна было іх падразаць на карону. Тады робяць так. Тут могуць быць два выпадкі: 1) аднагодні пянёк—тоўсты, просты, мае добра разьвіты верхавінны пучок і 2) аднагодні пянёк – тонкі, верхнія пучкі слаба разьвіты. У першым выпадку дрэўца яшчэ не падразаюць на карону, а ачышчаюць бакавыя паросткі, якія летам зразаюць. Вясною будучага году ўжо можна фармаваць карону. У другім выпадку вясною зразаюць усю верхнюю тонкую частку аднагодкі так, каб застаўся добра разьвіты верхні пучок і вышэй яго пянёк. Да гэтага пянька і прывязваюць паростак, што пойдзе з верхняга пучка. З бакавых пучкоў таксама пойдуць паросткі, іх трэба ашчыпваць і ў час зразаць. Калі такое дрэўца да восені будзе ўжо належнай вышыні, то яго будучай вясною падразаюць на карону, а калі не, то з ім і на трэцюю вясну робяць таксама, як і ў мінулым годзе.

Такія дрэўцы двухгодкі з аднагодняй каронай можна ўжо перасаджваць у сад. Тут іх другі раз падразаюць на карону.

(Горкі, с.-г. Акад.). **А. Карлсон.**

---

# Як скарыстаць ураджай саду.

Продукты сельскай гаспадаркі, асабліва сьвежыя плады і ягады, хутка псуюцца ці мяняюць свой смак. З пладоў на даўжэйшы час захоўваюцца толькі некаторыя сарты яблык, напр. антонаўка-камянічка. Ягады-ж або вішні не далежваюць і да зімы. Між тым, плады і гародніна маюць вялікае значэньне для пажытку чалавека. Пры ўжываньні адных толькі мясных харчоў, ня гледзячы на іх добры харчовы склад, цела чалавека будзе будавацца пры лішку некаторых матэрый і пры недастачы другіх. Гэта прывядзе да перараджэньня крываносных сасудаў, да зьмен у поласьцях суставаў і іншых нежаданых вынікаў. Плады і ягады ня толькі даюць здавальненьне чалавеку сваім смакам, але робяць харчы больш поўнымі і здаровымі.

Трэба асабліва ўменьне, каб зьберагчы плады і ягады на доўгі час. Пастараемся даць даступныя кожнаму селяніну спосабы перапробкі іх у продукты, якія маглі-б захоўвацца доўгі час па магчымасьці з тым-жа смакам і пажыўнасьцю.

Самы пашыраны спосаб захоўваньня пладоў і ягад гэта—гатаваньне варэньня, пры якім плады консэрвуюцца цукрам. Цукар павінен быць па магчымасьці густым (70%).

Зьбіраць плады для варэньня трэба сьпелыя (але не перасьпеўшыя) і толькі ў ясную і сухую пагоду. Плады павінны быць здаровыя, не папсутыя птушкамі і кузуркамі. З яблык для варэньня лепш браць цынамонавае паласастае, бо гэты сорт не разварваецца і вельмі ўраджайны на Беларусі.

Парэзаныя для гатаваньня плады ці цэлыя ягады апускаюцца ў сыроп, які робіцца з распушчанага ў вадзе цукру ў 48% гушчыні. Гэты сыроп добра кіпяцяць і здымаюць з яго пенку. Каб варэньне пасьля не зацукравалася, прыбаўляюць да яго трохі патакі. Калі ўжо плады ці ягады будуць празрыстыя, то варэньне гатова. Пры варцы мала-

пахучых пладоў прыбаўляюць ванілі, памеранцавай ці цытрынавай скарынкі і інш. Каб слабыя ягады, напр. маліна, не разварваліся, перад гатаваньнем іх трэба паліць добрым сьпірытусам ці ромам, абсыпаць цукрам і даць пастаяць 2-3 гадзіны. Каб захаваць колер ягад і пладоў, трэба ў часе гатаваньня прыбавіць трохі цытрынавага соку ці цытрынавага квасу.

Сухое варэньне робяць так: змочаныя ягады сьпірытусам, ромам ці коньяком, пасыпаюць цукрам і, калі ягады ўцягнуць у сябе цукар, іх кіпяцяць, а потым зноў пасыпаюць цукрам.



Мал. 1. Пераносная сушылка. Сьпераду відаць сіты, пастаўленыя адно на другое.

Больш пашыраным і карысным спосабам скарыстаньня пладоў зьяўляецца сушэньне.

З яблык для сушэньня можна раіць баравінку, горацкую харламаўку, штрэйфлінг, антонаўку; з ягад толькі пазёмкі і маліну.

Спосабаў сушэньня пладоў і ягад некалькі, напр., сушэньне на сонцы, ветру, у печы, на пліце, у розных сушылках (мал. 1).

Перад сушэньнем сартаваныя плады трэба прамыць у чыстай вадзе, яблыкі і ігрушы ачысьціць ад скуркі—гэта робіцца дзеля таго, каб яны хутчэй высыхалі. Ачышчаныя плады трэба зараз жа класьці ў ваду, крыху заквашаную цытрынавай ці мураўінай кіслатой (1 лыжка на вядро вады). Яблыкі сушаць цененькімі кружкамі з выразанай сэрцавінай 3-4 гадзіны. Таксама можна іх сушыць і цэлымі. Сушаць яблыкі пры 80° С., а пасьля зьяўленьня на іх паверхні скарынкі, дасушваюць пры 65-70° С. Сушаных яблык выходзіць 10% ад сырога матар'ялу.

Ігрушы сушаць разрэзанымі на часткі, пры чым перад сушэньнем іх трэба добра прапарыць, каб потым яны хутчэй высахлі.

Вішні перш сушаць на сонцы ці ў печы, а потым дасушваюць у сушылцы, павышаючы цяплыню ў працягу 20-24 гадзін. Сухога прадукту бяз костачак выходзіць 18%.

Маліну сушаць не зусім сьпелую пры цяплыні 60-65° С. ў працягу 4-5 гадзін. Сушанай выходзіць 25--26%.

Вельмі добрым спосабам захаваньня пладоў і ягад зьяўляецца мачэньне. З пладоў часьцей мочаць яблыкі і галоўным чынам антонаўку. Яблыкі, зьнятыя з дрэва рукамі, укладаюць у кадку, перакладаючы вішнёвым ці парэчачным лісьцем, заліваюць астуджанай вадой, прыгатаванай з дабаўкай цукру і патакі. Кадку зачыняюць драўняным кружком, на які кладуць некалькі добра прапараных каменьняў і трымаюць у хаце 2—3 дні. Пасьля заквашваньня, што пазнаецца, калі пачынаюць падымацца на паверхню пузыркі і па смаку малочнай кіслаты, кадку выносяць у халоднае месца. Тут ужо трэба глядзець, каб на паверхні была вада.

Каб умовы працы бактэрый малачарна—кіслага бражэньня былі найлепшыя, пасуду трэба добра вымыць і выпарыць, а таксама прыбавіць хлебнага квасу ці кіслага малака.

Яшчэ з яблык робяць пюрэ. Яблыкі і ягады кладуць у кацёл, умазаны ў печ, прыбаўляюць крыху вады і кіпяцяць, пакуль не размякнуць плады. Потым масу гэту праціраюць праз рэшата або прыладжаную дзеля гэтага машыну. Перапёртую масу гатуюць да гушчыні сьмятаны ў місках. Гарачае пюрэ накладаюць у шкляную пасуду ці бочкі, абвязваюць пузыром і захоўваюць у халодным месцы.

Апрача таго, можна з пладоў рабіць пасьцілу, часьцей з яблык ці мешаніны яблык з ігрушамі, сьлівамі, вішнямі ці ягадамі, пры чым яблычнай масы бярэцца $^3/_4$ і нават $^4/_5$ усей колькасьці.

Печаныя ці прапараныя над катлом з гарачай вадой плады і ягады праціраюць праз сіта ці спэцыяльныя машыны, каб аддзяліць мякаць ад костачак, скуркі і іншых цьвёрдых частак. Гэту масу зьбіваюць у пену і кладуць цукар-пясок 300 гр. ($^3/_4$ фун.) на кожны фунт узятае масы і б'юць яшчэ хвілін 10. Сушаць масу пры цяплыні $50^0$ у працягу 5-6 гадзін разложанай на рэшата, слоем у 2 см. ($^1/_2$ вярш). Рэшата засьцілаюць чыстай паперай, намазанай маслам. Калі гэту масу можна ўжо будзе рэзаць нажом, то яна гатова. Нарэзаная, яна зноў ставіцца ў сушылку на 2-3 гадзіны. Вынуўшы з сушылкі, масу перакладаюць на другія сіты, скурай уніз. Далей засушваюць так, каб кавалкі яе з усіх бакоў засохлі і каб у сярэдзіне іх не заставалася рэдкай масы.

(Горкі, с.-г. Акадэмія). Агроном **А. Андрусеўская.**

---

## АД РЭДАКЦЫІ.

З кастрычніка мес. г. г. спыняецца дармовая пасылка часопісі. Рэдакцыя просіць усіх, жадаючых атрымоўваць часопісь надалей, зрабіць падпіску да канца бягучага году. Кошт падпіскі да канца году (3 мес.)—75 кап.

Падпіска прымаецца на кожнай паштовай установе і непасрэдна ў рэдакцыі—Менск, Савецкая 71, НКЗ.

# С.-Г. КООПЭРАЦЫЯ

## Сельска-гаспадарчы крэдыт у змаганьні за ўраджай.

З таго часу, як пачалося разьвіцьцё с.-г. крэдыту, як заснаваўся Беларускі сельска-гаспадарчы Банк, сялянская гаспадарка Беларусі ўсё больш і больш адчувае карысьць гэтага мерапрыемства. Сродкі Белсельбанку, якія на 1 кастрычніка мінулага году вызначаліся ў 1.229 тысяч руб., павялічыліся на 1 ліпеня г.г. да 5.091 тыс. руб., г. зн. больш чым у 4 разы.

Адначасна вызначаецца і рост сродкаў у нізавой крэдытнай сетцы, якая складаецца з 115 крэдытных т-в Так. сводны баланс крэдытных с.-г. т-в. з 1.087 тыс. руб. на 1 кастрычніка 1924 г. дасягнуў 4.389 тыс. руб. на 1 ліпеня 25 г., г. зн. павялічыўся ў 4 разы.

Такі буйны рост сродкаў устаноў с.-г. крэдыту бязумоўна ня мала дапамог сялянскай гаспадарцы і адбіўся на ўраджаі сёлетняга году. Яшчэ ў леташнім годзе на дапамогу сялянскім гаспадаркам Беларусі было праз установы с.-г. крэдыту прасунута больш 1 міл. руб. Сёлета-ж гэта дапамога значна пашырылася. Толькі за 9 мес. (з 1 кастрычніка па 1 ліпеня) выдадзена крэдытнымі сел.-гасп. т-вамі новых сел.-гасп. пазычак 85.529 гаспадаркам, што складае 1/6 ўсіх гаспадарак Беларусі, на суму 2.827.875 руб. Калі-ж да гэтае сумы дадаць тое, што Белсельбанкам і Акрсельбанкам выдадзена безпасрэдна колектыўным гаспадаркам, мала арным арцелям, машынным і інш. с.-г. т-вам, то сума с.-г. пазычак падымецца да 3-х з пал. міл. руб.

Трэба яшчэ заўважыць і тое, што апроч закрэдытаваньня прамых вытворчых патрэб сельскай гаспадаркі, установамі сел.-гасп. крэдыту даваліся сел.-гасп. пазычкі коопэрацыйным саюзам і іншым гаспадарчым організацыям на закупку с.-г. машын, насеньня, угнаеньня і збыт с.-г. продуктаў. А гэта таксама ўплывала на ўзмацненьне сялянскай гаспадаркі.

Сярод выдадзеных Белсельбанкам с.-г. пазычак выдзяляюцца сваёй лічбай пазычкі на коняй (612.000 руб.), на насеньне (430.000 руб.), на с.-г. машыны і прылады (530.000 руб.), г. зн. галоўным чынам на тое, што мае такое вялізарнае значэньне ў адраджэньні нашай зруйнаванай гаспадаркі, што бязумоўна зрабіла не малы ўплыў і на тое, каб лепш апрацаваць зямлю і сабраць лепшы ўраджай.

Досыць зазначыць пры гэтым адно вельмі важнае зьявішча вясны сёлетняга году. Калі выявілася, што можа сустрэнуцца патрэбы ў перасеве азіміны, а ў некаторых мясцох нават наогул адчуваўся недахват насеньня ярыны, то ў многіх сялян была небясьпека, якім чынам

засеяць поле. Але тут праз с.-г. крэдыт на дапамогу зьявіліся насенныя пазычкі (аўса, ячменю). Таксама, толькі дзякуючы с.-г. пазычкам, шмат якія гаспадаркі здолелі здабыць насеньне канюшыны, сэрадэлі і перайсьці да шматпольля і г. д.

Згодна справаздач нізавой крэдытнай сеткі мы ўбачылі, як сялянства скарыстала с.-г. крэдыт: 35 проц. пашло на коняй, 17 проц. на насеньне, 11 проц. на кароў, 6 проц. на с.-г. інвэнтар і толькі рэшта на іншыя патрэбы сельскай гаспадаркі.

Па тэрміну пазычкі разьмяркоўваліся гэтак: да 6 мес.—31 проц. усіх сум., ад 6 да 9 мес.—39 проц., ад 9 да 12 мес.—23 проц. і больш году—7 проц. Адгэтуль мы бачым, што с.-г. пазычкі маюць пакуль што ў большасьці, каротка-тэрміновы характар. Але з кожным месяцам лік доўга-тэрміновых пазычак павялічваецца, так, з 1, 6 проц. у мінулым годзе яны сёлета павялічыліся ўжо да 7 проц. На будучы-ж год маецца на мэце давесьці лік доўгатэрміновых пазычак нават да 25—30 проц.

Хто-ж скарыстаў гэтыя пазычкі?

Сяляне, якія маюць да 3-х дзес. зямлі, атрымалі 27 проц. усіхпазычак; 3—6 дзес.—45 проц.; 6—10 дзес.—21 проц.; 10—15 дзес.—5 проц. і больш 15 дзес. толькі 2 проц. Калі-ж глянуць на забясьпечанасьць коньмі нашых пазычнікаў, то мы заўважым, што 28 проц. пазычак атрымалі тыя, хто зусім не мае коняй, 59 проц.—з 1 канём, 11,5 проц.—маючыя 2-х коняй і 1,5 проц.—3-х конныя. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што с.-г. крэдыт абслугоўвае амаль што выключна маламоцныя і серадняцкія гаспадаркі.

Проціанты па с.-г. пазычкам, якія ў пачатку году ў некаторых мясцох браліся ў разьмеры 15—18 проц., зараз стала замацованы ўсюды ў разьмеру 7 проц. пры доўгатэрміновых пазычках і 12 проц. пры каротка тэрміновых, а нават па некаторым крэдытаваньням, як, напрыклад, па лесапазычкам, даведзены да 6 проц. гадавых.

Вось якія вынікі толькі 2-х гадовай працы сыстэмы с.-г. крэдыту.

На будучы 1925-26 г. крэдытны плян Белсельбанку зложан у суме 13 міл. руб.

Кожны год усё новыя і новыя, досыць значныя дзяржаўныя сродкі, уліваюцца ў сялянскія гаспадаркі дзеля іх узмацненьня і разьвіцьця.

Шкодна аднак тое, што мала пакуль што мясцовых сродкаў абарачваецца ў сыстэме с.-г. крэдыту. Сялянскія ўклады, якія дасягалі ў крэдытных т-вах у даваенны час 12 міл. руб., зараз ледзь дасягаюць 64 тыс. руб., у той час як у даваенны час пазычкі крэдытных т-ваў у Дзяржаўным Банку былі толькі каля 4 міл. руб., і зараз ужо таксама дасягаюць 4 міл руб.

Можна з пэўнасьцю сказаць, што сыстэма с.-г. крэдыту, якая так шырока разгортваецца ў апошні час, здолее ўзмацаваць нашу сельскую гаспадарку і штурхнуць яе на шлях росквіту. Пры дапамозе с.-г. крэдыту сялянская гаспадарка перабудуецца ў такія формы, што яна ня будзе залежыць ужо выключна ад вынікаў ураджаю, а круглы год будзе зьбіраць прыбытак ад розных галін свае гаспадаркі.

**Е. Трахімаў.**

# Праца Цэнтральнага Дзяржаўнага сельска-гаспадарчага складу Беларусі ў мінулую веснавую кампанію і пэрспэктывы яго ў асеньнюю пару 1925 г.

У сучасны момант галоўную ролю ў дастаўцы для сельскіх гаспадарак патрэбных машын і прылад, а таксама насеньня і штучных угнаеньняў, а гэта значыць і ў адраджэньні сельскай-гаспадаркі, выконвае цэнтральны Дзяржаўны сельска-гаспадарчы склад, і з гэтай прычыны праца яго ў гэтай галіне павінна заслугоўваць увагі ня толькі з боку сялянства, але і з боку устаноў, якія зацікаўлены ў адраджэньні нашае сельскае гаспадаркі. Раней, чым аналізаваць працу, трэба адзначыць тыя асаблівыя варункі, якія абцяжарвалі яго працу за мінулы час.

1. Цэнтраземсклад пачаў працу ў бягучым опэрацыйным годзе, таксама як і ў мынулыя гады, з значным недахватам сваіх зваротных сродкаў (380.000 руб. пры заданьні на 1.789.660 р.).

2. Немагчымасьць атрыманьня на саюзных рынках тых сельскагаспадарчых машын і прылад, да якіх з даўных пор прызвычаілася сялянства Беларусі і якіх яно выключна патрабуе цяпер.

Апошняя акалічнасьць характэрна для ўсёй Беларусі з тэй прычыны, што да ваеннага часу Беларускі рынак абслугоўваўся сельскагаспадарчымі машынамі і прыладамі выключна заводаў Варшаўскіх, Рыскіх і Нямеччыны, у зьвязку з чым машыны і прылады расейскага вырабу не былі прыстасаваны для сельскіх гаспадарак Беларусі.

Такое становішча навяло Цэнтраземсклад на думку, што дзеля таго, каб даць сялянству магчымасьць атрымаць тыя прылады, да якіх яно прызвычаілася і якія адпавядаюць мясцовым прыродным асаблівасьцям, трэба ажыцьцявіць унутры беларускае сельска-гаспадарчае машынабудаўніцтва і, трэба сказаць праўду, Цэнтраземсклад выканаў гэту задачу пасьпешна:

а) нашы сельска-гаспадарчыя майстэрні, апрача рамантаваньня машын, прыстасаваны да вырабу новых прылад; зроблены ўсе захады да таго, каб даць ім магчымасьць яшчэ большага разьвіцьця іх дзейнасьці, якая з кожным годам няўхільна пашыраецца;

б) ня гледзячы на нястачу сваіх зваротных сродкаў, Цэнтраземсклад даў дапамогу Віцебскаму машынабудаўнічаму заводу, які к моманту ўзбуйненьня Беларусі ледзь дыхаў і знаходзіўся на пярэдадні экономічнай сьмерці; толькі дзякуючы стараньню Цэнтраземсклада й яго буйным заказам, які ён даў выключна з мэтай падтрымаць завод, апошняму ўдалося зноў аправіцца і даказаць сваю неабходнасьць;

в) утворана комісія па пытаньню аб стандарызацыі машын.

Пераходзячы да безпасрэднай мэты гэтага артыкулу—высьвятленьня дзейнасьці Цэнтраземскладу за мінулы опэрацыйны час, трэба заўважыць тыя асаблівасьці, якія спатканы ў мінулую компанію, напрыклад: у зьвязку з агульным узростам сельскае гаспадаркі, прымечанае яшчэ ў мінулым годзе ажыўлёнае запатрабаваньне с-г. машын, прылад і ўгнаеньняў з боку шырокіх мас сялянства, у бягучым годзе зьмянілася масавым патрабаваньнем на плугі, на прылады для ўборкі ўраджаю і машыны на апрацоўку ўраджаю. Апроч таго значна павялічыўся попыт на ўсе сарты жалеза, патрэбны ў сялянскай гаспадарцы,

у зьвязку з чым нарыхтаваньне ўсіх гэтых рэчаў прышлося павялічыць. Напрыклад, згод а опэрацыйнаму пляну Цэнтраземскладу на 1924-25 меркавалася нарыхтаваць гэткія тавары:

| | |
|---|---|
| с-г. машын і прылад . . . | на 861.558 р. |
| насеньня . . . . . . . | 337.330 р. |
| угнаеньня . . . . . . . | 110.250 р. |
| дробнага інвэнтару і інш. . | 480.522 р. |
| А ўсяго . . | 1.789.660 р. |

| Нарыхтавана | На суму | У % аднос на пляну. |
|---|---|---|
| с-г. машын і прылад . . . | 1.209.775 р. | 140% |
| насеньня рознага . . . . | 462.456 р. | 137% |
| штучнага ўгнаеньня. . . . | 54.394 р. | 49% |
| дробнага інвэнтару і інш. . | 1.023.867 р. | 213% |
| А ўсяго . . | 2.750494 р. | 153% |

Што датычыцца насеньня кармовых траў і буйных прылад для ўборкі ўраджаю, то запатрабаваньне на гэтыя речы выявілася значна ніжэй таго, што меркавалася па пляну.

Гэта здарэньне тлумачыцца з аднаго боку дарагоўляй насеньня канюшыны і цімафейкі ў зьвязку з агульным няўраджаем іх у мінулым годзе ў сусьветным маштабе і дарагоўлей буйных прылад для уборкі, як унутрысаюзнага вырабу, так і замежых, а з другога боку—абрэзкай буйных гаспадарак. З гэтае прычыны продаж насеньня канюшыны ў бягучым годзе значна ўпаў, напрыклад : у 1924 г. Цэнтраземскладам у межахБеларусі было продана ня менш 8.500 пуд., а лічбы продажу бягучага году сьведчаць аб продажу толькі 6220 пуд. Датычна буйных уборачных машын трэба яшчэ адзначыць, што было шмат здарэньняў у гэтым годзе, калі грамадзяне прапанавалі нам прадаць раней купленыя імі ўборачныя машыны, што таксама тлумачыцца страхам абрэзкі зямлі.

Агульны-ж продаж Цэнтраземскладу ў бягучым годзе па 1-е чэрвеня скадаецца ў суме 1.516.050 руб., што перавышае продаж за ўвесь 1923-24 год (было продана на 961.359 р.) на 49 проц. Да канца-ж опэрацыйнага году, г. зн. да 1 кастрычніка продаж узрасьце да сумы ня менш 2.500.000 руб., або на 160 проц. болей у параўнаньні з мінулым годам.

У ніжэй паказанай табліцы продажу па 1 чэрвеня адзначаюцца тыя віханьньні, якія зварочваюць увагу на асобны гурт тавараў:

| | Продана ў 1923-24 г. на суму. | Продана з 1/X-24 г па 1/VI-25 г. на суму | % суадносін. |
|---|---|---|---|
| 1) с-г. машыны і прылады . | 276.540 р. | 594.069 р. | 214% |
| 2) дробны інвэнтар і інш. . | 337.152 р. | 512.654 р. | 127% |
| 3) насеньне рознае . . . . | 250.354 р. | 300.046 р. | 119% |
| 4) штучныя ўгнаеньні . . . | 46.390 р. | 12.186 р. | 26% |
| 5) цьвікі . . . . . . . . | 15.379 р. | 14.907 р. | 96% |
| 6) жалеза . . . . . . . | 35.542 р. | 81.988 р. | 230% |
| Усяго . . . | 961.359 р. | 1.516.050 р. | 149% |

У сувязі з пытаньнем адносна агульнага выкананьня падрыхтоўчага пляну Цэнтраземскладу на 1924-25 год можна адзначыць, што гэты плян агулам выканан на 1 чэрвеня ў разьмеры 113 проц., а калі ўзяць пад увагу тыя машыны і прылады, якія павінны паступіць на яго склады да канца опэрацыйнага году, дык процант выкананьня пляну ўзрасьце да 153 проц.

Разглядаючы паасобна кожны гурт нарыхтаваных тавараў, трэба заўважыць два гурты тавараў, па якім процант нарыхтаваньня значна перавышае пляновыя меркаваньні, напрыклад:

| | Па пляну меркавалася нарыхтаваць. | Нарыхтавана. | Продана да 1 чэрвеня | % адносна нарыхт. пляну. |
|---|---|---|---|---|
| Плугі . . . . . | 17.835 шт. | 32.497 шт. | 24.681 шт. | 222% |
| Малатарні . . . | 1.150 шт. | 2.015 | 476 | 183% |

З параўнаньня гэтых лічбаў відаць, што тыя галоўныя зьмены нарыхтаваньня ў лічбовым складаньні, якія Цэнтраземскадам дапушчаны пры ажыцьцяўленьні свайго пляну на 1924-25 г., бязумоўна былі неабходны. Гэта падкрэсьліваецца такімі фактамі:

а) як відаць у вышэй паказанай табліцы, па пляну меркавалася нарыхтаваць 17.835 шт., а да 1-га чэрвеня продана 24.581 шт.

б) ня гледзячы на тое, што да сэзону малацьбы яшчэ далёка, да 1-га чэрвеня продана, і пры тым блізка што ўсё сялянам, 476 малатарань, а за чэрвень і ліпень продана 500 шт. Гэта сьведчыць аб тым, што Цэнтраземсклад правільна ўцяміў коньюнктуру рынку пры апрацоўцы пляну і яго ажыцьцяўленьні ў сэнсе павялічэньня лічбаў нарыхтаваньня паасобных гуртоў тавараў.

Перадхозячы затым к пэрспэктывам на асеньні пэрыод, трэба адзначыць, што на гэты час Цэнграземсклад нарыхтаваў значную колькасьць ніжэйпамянёных сэзонных тавараў, напрыклад:

| | | |
|---|---|---|
| Машын і прылад | плугоў | 9.351 |
| | барон розн. | 1.064 |
| | жняярак | 134 |
| | малатарань | 1.450 |
| | манежаў | 448 |
| | арфаў-сартовак | 511 |
| | сячкарань | 1.339 |
| Угнаеньняў | Фосфарытнай мукі | 20.000 п. |
| | Калійнай солі | 6.000 п. |
| | Чылійскае салетры | 15.00 п. |
| | Супэрфосфату | 40 вагонаў |
| | Тамасшляку | 10 вагонаў |

Апроч таго зроблены ўмовы з Віцебскім машынабудаўнічым заводам дзеля вырабу с-г. прылад і машын на новы опэрацыйны год і, згодна ўмовам, павінна паступіць на склады ЦСГС сэзонных прылад і машын у кастрычніку і лістападзе:

| | |
|---|---|
| Плугоў | 4.000 шт |
| Малатарань | 150 |
| Манежаў | 115 |
| арф | 300 |

Усё вышэй паказанае яскрава сьведчыць аб тым: 1) што наша сельская гаспадарка расьце ў вышыню і шырыню і 2) што ў дастаўцы для сельскае гаспадаркі патрэбнага інвэнтару і інш. перабояў ня будзе.

**Бахір.**

---

# Праца Зембінскага крэдытнага таварыства.

Зембінскае крэдытнае с.-г. таварыства з'організавалася на падставе пастановы сходу грамадзян Зембінскага раёну 19 красавіка 1924 г. ў ліку 50-ці сяброў, з якіх між іншымі былі: Зембінская сямёхгодка, ЕПО і Комітэт узаемадапамогі.

Да 29 красавіка т-ва мела ўжо 221 руб. свайго капіталу, які злажыўся з уступнай платы (па 50 кап. з сябра) і паявых узносаў (па 3 руб. з сябра) сяброў таварыства.

Статут таварыства быў зацьверджаны Наркомземам 29 красавіка і гэтага-ж часу таварыства зрабіла ўмову з с.-г. Банкам аб крэдыта-

ваньні т-ва грашмі ў суме 10.000 руб. з 9% гадавых. Пры падпісаньні ўмовы Праўленьне таварыства атрымала 2650 руб.

Зембінскае таварыства распаўсюджвае сваю дзейнасьць на 214 вёсак, у якіх маецца 4.523 гаспадаркі, у тым ліку хутароў 1.261, пасёлкаў 21. Зямлі ў раёне маецца 78.330 дзес., у тым ліку 17.251 дзес. сенажаці.

З тэхнічных культур сеецца лён для сваёй патрэбы. З траў сеецца лубін, канюшына і толькі пачынае завадзіцца цімафейка і сэрадэля. Наглядаецца імкненьне жыхарства вёскі к палепшаньню скаціны і ўжо ёсьць у некаторых гаспадарках швіцы і ардэны.

На першае кастрычніка 1924 г. таварыства мела паявога капіталу 1.098 руб. і асноўнага ўласнага капіталу 184 руб., разам-жа 11,6% к балянсу. Пазык кароткатэрміновых атрымала 9.350 руб., г. зн. 85% к балянсу. Страт на гэты тэрмін лічылася 167 руб. 97 кап., альбо 1,5%. Сяброў налічалася 359, што складала 7,9% усіх гаспадарак раёну.

Пачынаючы з 1 кастрычніка 1924 г. па 1 ліпеня 1925 г. ў таварыстве зрабіліся вось якія зьмены: лік сяброў рос так: за тры месяцы— кастрычнік, лістапад і сьнежань—прыбыла 557, за студзень, люты і сакавік—245, красавік, травень і чэрвень—126 сяброў, а разам на 1 ліпеня налічвалася 1.287 альбо 28,5% усіх гаспадарак раёну.

Уласныя капіталы таварыства таксама расьлі і к 1 чэрвеня складалі ўжо 4.197 руб., павялічыўшыся на 327,4%.

Балянс к гэтаму часу ўзрос да 47.408 руб., г. зн. у 4,2 разы.

Пазыкі ў Белсельбанку павялічыліся да 36.691 руб, г. зн. на 836% складаючы, такім чынам, на аднаго сябра 28 руб. 51 кап. і на адзін вясковы двор—9 руб. 37 кап.

Выдача пазык сябрам таварыства рабілася на гэткія мэты: мёртвы інвэнтар—3,8 проц., коні—53,8 проц., каровы—14,8 проц., будынкі—21,8 проц., насеньне—2,0 проц., прадпрыемствы—0,6 проц., грунтоўнае палепшаньне—1,4 проц. і іншыя опэрацыі—1,8 проц.

Па тэрміну і разьмеру пазык выдадзена: да 6 мес.—24,8 проц.; 6-9 мес —33,0 пр.; 9-12 мес.—37,0 пр.; звыш 12 мес.—5,2 проц. Да 25 р.—12,6 пр.; 25-50 р. 63,9 пр.; 50-100—20,5 пр. і звыш 100 р.—3,0 пр.

Пазычаўшыя раскладаюцца на гэткія катэгорыі: меўшых зямлі да 1 дзес.—1,5 пр. ліку сяброў; 1-3 дзес.—25,3 пр.; 3-6 дзес.—41,4 пр.; 6-10 дзес.—22,4 пр.; 10-15 дзес.—5,6 пр. і звыш 15 дзес.—3,8 пр. З адным канём—51,7 пр., з 2 канямі—6,2 пр. з 2 канямі і больш 2,5 пр. Ня меўшых коняй—39,6 пр., ня меўшых кароў—10,9 пр., з 1 каровай— 35,2 пр., з 2 каровамі—35,1 пр. і з 3 каровамі—19,0 пр.

Усіх-жа пазык выдадзена 1415, на агульную суму 36.691 р. 32 к. З першага кастрычніка па першае ліпеня паступіла заяў на пазыкі 55.875 руб. і атрымана т-вам у Белсельбанку 34.393 руб., а выдадзена сябром пазык 36691 руб. 32 кап. Такім чынам, здавольнена заяў толькі 65,7 пр.

Укладаў у таварыства за час ад лістапада 1924 г. па 1 ліпеня 1925 г. паступіла 1.171 руб. і паводлуг росту ўласных капіталаў і росту сяброў, занадта мала, што тлумачыцца яшчэ нядобрай організацыяй самога таварыства.

На першае жніўня 1925 г. балянс т-ва выглядае так:

АКТЫЎ.

| | | |
|---|---|---|
| Каса . . . . . . . | 79 р. 86 к. | 0,0% |
| Пазыкі кароткатэрміновыя . . | 36.154 р. 20 к. | 74,8% |
| Тавары . . . . . . | 3.030 р. 47 к. | 59% |
| Розныя асобы і ўстановы . . | 1.637 р. 55 к. | 3,0% |
| Пазыкі доўгатэрміновыя . . . | 2.000 р. 00 к. | 3,8% |
| Маемасьць . . . . . | 922 р. 49 к. | 1,6% |
| Выніковыя . . . . . | 5.805 р. 1 к. | 11,6% |
| Разам . | 4.9629 р. 58 к. | |

ПАСЫЎ.

| | | |
|---|---|---|
| Уклады . . . . . . . | 273 р. 40 к. | 0.55% |
| Розныя асобы і установы . . | 439 р. 1 к. | 0,85% |
| Пазыкі кароткатэрміновыя . . | 31.350 р. 74 к. | 62,9% |
| Пазыкі доўгатэрміновыя . . . | 1.874 р. 91 к. | 3,8% |
| Капітал асноўны пазычаны . . | 3.000 р. 00 к. | 6,0% |
| Капітал уласны . . . . | 4.331 р. 65 к. | 8,9% |
| Выніковыя . . . . . | 8.359 р. 87 к. | 67,0% |
| Разам . | 49.629 р. 58 к. | |

Як відаць з гэтага балянсу, становішча таварыства зусім інакшае воллуг яго балянсу на першае кастрычніка мінулага году. Тады ў таварыстве было страты 167 р. 94 к., а к 1 жніўня маецца прыбытку каля 2.554 р. 85 к.

Гэткія варункі таварыства зладжыліся на тым грунце, што таварыства ўсю сваю моц накіроўвала ў крэдытным напрамку, не зварачваючы сваёй працы на шлях гандлю. Опэрацыі па дастаўцы с.-г. прылад і машын, а таксама і опэрацыі фактарскіх абавязкаў па збыту жывёлы таварыства рабіла вельмі асьцярожна і па прынцыпу коопэрацыйнага збыту.

За час з 1 кастрычніка т-ва набыло пракатныя зёрначысьцільныя машыны, трыер, сартоўку, лёнатрапалку, якімі ачышчана сялянскага насеньня 816 пудоў. Другой прычынай палепшаньня справы таварыства, ёсьць тое, што апарат праўленьня быў за ўвесь час малы.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што праўленьне таварыства з кожнай капейкай грамадзкіх грошай абходзілася, як і належыць добраму гаспадару, з асьцярогай. Загэтым і лік сяброў паступова рос (на 1 жніўня 1314 ч.), што таксама сьведчыць аб здавальненьні сялянства працай сваіх прадстаўнікоў.

Калі Зембінскае крэдытнае таварыства за кароткі тэрмін дасягнула такіх выразных вынікаў, можа спадзявацца, што праца яго ў бліжэйшы час, прынамсі ў год-два, яшчэ больш пашырыцца на карысьць працоўнага сялянства.

**П. Захарыч.**

# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Аб с-г. гурткох і іх працы.

Цяпер сяляне пачынаюць больш цікавіцца с.-г. навукай, якая можа пазбавіць іх ад тае цемры, у якой была раней вёска. У с.-г. гурткі сялянская моладзь ідзе з ахвотаю. Такіх організацый за бягучы год стала вельмі многа. Так, па адной Менскай акрузе с.-г. гурткоў налічваюць да 150 (данясеньні агрономаў). С-г. гурткі ў палепшаньні сельскай гаспадаркі маюць вялікае значэньне. Найбольш сьвядомая частка насельніцтва аб'ядналася ў іх. На с.-г.гурткох можна грунтаваць значную частку працы па адбудове сельскай гаспадаркі.

Трэба ўважна паглядзець, якую працу зрабілі с.-г. гурткі, што спрыяла ці спыняла іх працу. Для агронома гэта важнае пытаньне, ад якого ў значнай меры залежыць будучая праца. Трэба высьветліць гэтыя пытаньні і думкі і пашырыць праз друк, каб праца пашла так, як належыць.

Праца с.-г. гурткоў у Менскай акрузе дае нам вынікі ня вельмі добрыя. У значнай частцы гурткоў нястача кіраўнікоў і дзеля гэтага яны не маглі існаваць ці зрабілі маленькую працу. Другая частка с.-г. гурткоў зімою даволі акуратна зьбіралася і працавала над програмай, якую даў ім Галоўпалітасьветы БССР. Але на гэтым у большасьці праца і канчалася. Ня ведаючы, як організаваць практычную частку працы с.-г. гурткоў і ня маючы належнага кіраўніцтва, улетку яны зусім перасталі працаваць. А між тым улетку і павінна была быць практычная праца гурткоў. Яна ажывіла-б іх працу, зацікавіла іх с.-г. культурай. Адсутнасьць гэтага практычна-вытворчага напрамку на жаль бывае амаль ва ўсіх гурткох. Ня гледзячы на гэта, усё-ж некаторыя гурткі праводзяць у вёсцы практычную працу. Трэба сказаць, што гэтаю працай не кіруе с.-г. гурток, а яна праводзіцца ў сваіх гаспадарках сябрамі гурткоў, якія навучыліся лепшым прыёмам сельскай гаспадаркі ў іх.

Я пакажу на прыкладзе працу некаторых с.-г. гурткоў, якую я сам бачыў. С.-г. гурток вёскі Рудня, Лагойскага раёну, склаўся з існаваўшага тут з 1921 г. Беларускага культурна-асьветнага гуртка „Працаўнік", пасьля праведзеных тут гуртком с-г. курсаў. Сяброў гуртка цяпер 25 чалавек, з якіх 5 чал. сябры ЛКСМ, а 17 чалавек—дарослыя сяляне—гаспадары.

Дзейным сябром гуртка, старшынёю і кіраўнікам яго зьяўляецца мясцовы культурнік гр. Зарэмба. Вынікам працы гуртка зьяўляецца пераход сялян на шматпольле. Дзякуючы гуртку, тут праведзена паказальнае кармленьне кароў, шмат сялян гэтых вёсак уцяплілі і асьвятлілі свае хлявы, зрабілі дацкія кармушкі і пачалі правільна карміць скаціну і рыхтуюцца да організацыі малачарнага саюзу. Пад уплывам

гуртка ўсе грамадзяне гэтых вёсак зрабілі ў сябе ачыстку насеньня сартоўкай „Трыумф", якая перадана ў гурток. Зімой падрыхтоўкай па сельскай гаспадарцы займаліся амаль кожны дзень, пры гэтым сябры гуртка рабілі даклады.

С-г. гурток у Вяпранах, Лагойскага раёну, організаваўся ў лістападзе 24 г. Сяброў гуртка 32 чал., з якіх 7 чалав. сябры ЛКСМ і 18 чалавек дарослых гаспадароў старэй 25 год. Праца яго складалася з дакладаў сяброў гуртка, а ў выніку ваколічныя сяляне пачалі сартаваць насеньне, садзіць кармовыя корняплоды. Гурток залажыў на школьным вучастку колектыўны гарод. Па словах дзейнага кіраўніка гуртка, вучыцеля Сапрыкі, організуецца малачарная арцель і гурток стаіць за організацыю машыннага таварыства.

С.-г. гурткі Астрашыцка-Гарадзецкага раёну: Беларуцкі—мае 27 сяброў, з іх 4 ЛКСМ і 10 чал. старэй 30 год; в. Вяча—27 сяброў-гаспадароў. У выніку працы с.-г. гуртка сяляне пачалі сартаваць насеньне, сеяць кармовыя корняплоды, робіць радковыя пасевы яравых, закладаюць на сваіх землях паказальныя вучасткі, паляпшаюць сенажаці баранаваньнем, угнаеньнем і падсевам травы. С.-г. гуртком в. Гаяны організавана машыннае таварыства, у якое ўжо ўваходзіць да 35 проц. насельніцтва. С.-г. гурток в. Паперні. Астрашыцка-Гарадзецкага раёну, мае 25 сяброў, з якіх 9 чалавек комсамольцы, а 11 чал. маюць больш па 25 год. Кіраўніком гэтага гуртка зьяўляецца вучыцель Гуска. Акром другіх уведзеных палепшаньняў у гаспадарцы, большасьць сяброў гуртка пачалі ўводзіць шматпольныя сьвазвароты (4-х і 8-мі польле), што зьяўляецца ўжо вялікім посьпехам.

Можна было-б сказаць і аб тых гуртках, сябры якіх палепшылі свае гаспадаркі, дзякуючы працы ў с-г. гуртках.

Трэба лепш нарыхтаваць гэту практычную вытворчаю працу сяброў гурткоў і больш організаваць яе. Гэта праца буду ага, праца кіраўнікоў гурткоў. З раней сказанага мы бачым, якое вялікае значэньне маюць с-г. гурткі. Затым на іх трэба зьвярнуць вялікую увагу і тады яны апраўдаюць тыя надзеі, якія на іх ускладаюцца.

Агроном **Сьцяпура.**

---

## Аб пяцімесячных школах дарослых сялян.

У 1924 годзе на Беларусі былі адчынены ў кожнай акрузе школы дарослых сялян, якія маюць сваёй мэтай падрыхтоўку актыўных грамадзкіх і культурных працаўнікоў вёскі. Школы гэтыя ў нас яшчэ маладыя, ня маюць за сабой вопыту і таму патрэбна выказаць усе тыя дасягненьні і памылкі, якія былі заўважаны ў гэтым годзе. Тут я хачу падзяліцца думкамі аб працы Менскай 5 мес. школы.

Яна пачала існаваць з 17 лістапада 24 г. Слухачы-сяляне былі камандыраваны раённымі зямельнымі аддзеламі, с. с., профсаюзам працзямлесу і жаночымі організацыямі. Усяго за цэлы месяц сабралася 39 чалавек, з якіх скончыць удалося 25 асобам, а рэшта былі прымушаны пакінуць школу па розным прычынам.

У палажэньні аб гэтых школах тлумачыцца, што ў 5 мес. школы можна прымаць ад 18-ці годняга ўзросту, а таму ўсе слухачы і былі ад 18 да 22-23 год, дзякуючы чаму школа пачала складацца падобнай да школы сялянскай моладзі, якая ў працягу сваёй працы выявіла

большую прыхільнасьць да далейшай адукацыі, чым да звароту ў свае гаспадаркі. Вось загэтым у наступным годзе павінны быць прыняты ў 5-ці месячную сялянскую школу ў першую чаргу актыўныя і самастойныя гаспадары і наогул сяляне ня менш 25 год, што і было адзначана на чарговым пасяджэньні А.П.А. ў лютым г. г. на дакладзе аб працы школы.

Зусім другі быў погляд на слухачоў—самастойных гаспадароў, якія надта зацікавіліся с.-г. ведамі і якія за кароткі час працы ў сваіх гаспадарках даюць добрыя вынікі ў справе палепшаньня сваіх гаспадарак, што мае добры уплыў на суседнія гаспадаркі ў вёсцы.

За бягучае лета актыўныя, самастойныя гаспадары - слухачы школы правялі такую працу: абрэзку і пабелку садоў; засеў яравога збожжа радковымі сяўнікамі (на што сяляне, апроч слухачоў, не згаджаліся); пасадзілі гародныя расьліны, як капусту і кармовыя буракі ў радкі, а не ў грады, як рабілі да гэтага часу; уводзяць майскія і занятыя папары; вядуць падкормку скаціны бульбай; к восені парашылі ўцяпліць хлявы, зрабіць вокны і дацкія кармушкі. Апрача таго капаюць торф на ўгнаеньне; лічацца сябрамі ўсялякіх таварыстваў; выпісваюць газэты і часоп. „Плуг". Тыя гаспадары, зямля якіх знаходзіцца ў хутары або атрубе, пераходзяць да шматпольнага севазвароту і наогул тыя сяляне, якія прашлі зараз аднагадовыя с.-г. школы, становяцца актыўным ядром у вёсцы, якое падбухторвае суседзяй да новых форм землекарыстаньня і гаспадараваньня.

За кароткі час працы школа дае невялікія вынікі. Неабходна зьвярнуць увагу на пашырэньне гэтых школак, хоць па адной на раён, і прыбліжэньне іх да сялян. Трэба толькі шкадаваць, што школы яшчэ не ўмацнелі і іх пераводзяць з госбюджэту на мясцовы, што можа дрэнна адбіцца на працы. Школа пры малых сродках ня дасьць тых вынікаў, якіх ад яе чакае сялянства і ўлада.

Цяпер раённым агрономам, с. саветам і раённым зямельным аддзелам трэба ўжо загадзя адбіраць той сялянскі актыў гаспадароў, які будзе камандыраваны ў школы дарослых сялян. Трэба памятаць, што да гэтага часу ў вёсцы было мала прыхільнікаў правядзеньня агракультурных мерапрыемстваў. І толькі цяпер з накапленьнем гэтай сілы ў вёсцы праца агронома будзе разьвівацца там, як найхутчэй і шырэй.

П. Ляпёшка.

(Загадчык с.-г. школы ў Лошыцы).

---

# Аб дзічячых с.-г. клюбах.

Дзіцачыя с.-г. клюбы ставяць перад сабой наступныя заданьні:

1. Зацікавіць дзяцей сельскай гаспадаркай.

2. Скарыстаць дзіцячую цікавасьць для таго, каб даць ім з маленства шэраг зразумелых практычных і тэорэтычных вед па сельскай гаспадарцы.

3. Праз дзіцячыя паказальныя градкі, якія зьмяшчаюцца на гародах іх бацькоў, паказаць і дарослым гаспадаром новыя способы культуры гародных расьлін.

У склад клюбу па жаданьню могуць увайсьці вучні пачатковых школах, сямёхгодак і ўсе дзеці школьнага ўзросту.

Організоўваць дзіцячыя с.-г. клюбы лепш у тых вёсках, дзе ёсьць школа ці с.-г. гурток, бо тады сябры апошняга ці настаўнік будуць кіраваць працай дзіцячага с.-г. клюбу.

Зімой дзеці-сябры клюбу, зьбіраючыся хоць-бы адзін раз у тыдзень усім сваім гуртком у школу, у клюб ці хату-чытальню, вывучаюць розныя пытаньні па гародніцтву, садоўніцтву, жывёлагадоўлі і гэтак далей.

Вясною (а яшчэ лепш увосень) кожны клюбнік павінен атрымаць ад сваіх бацькоў 2-3 невялічкія градкі[1]). Карыстаючыся паказаньнямі сваіх кіраўнікоў, на гэтых градках ён будзе ўзрошчваць тыя ці іншыя расьліны.

У час „Сьвята Ўраджаю" на клюбных выстаўках робіцца ацэнка дасягнутых вынікаў кожным клюбнікам. За лепшыя дасягненьні даюцца прэміі.

Вясною бягучага году шэфная грамада Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту сельскае гаспадаркі організавала каля 20 такіх клюбаў. Знаходзяцца яны ў раёне м. Койданава, вучэбных ферм Прылукі і Лошыца і ў Барысаўскай акрузе.

Маладыя клюбнікі вельмі зацікаўлены гэтай працай. Яны самі засявалі, садзілі гародніну, наглядалі за іх усходжасьцю, запісвалі асобныя моманты свае працы і г. д. Праца іх ня была прымусовая, а была вынікам зацікаўленьня ею саміх клюбнікаў. Гэта было заўважана бацькамі, якія цяпер памагаюць дзяцям у новай для іх працы.

Наогул можна сказаць, што с.-гасп. клюбы вельмі падабаюцца дзяцям.

Яны зусім здавальняюць пытаньні дзіцячага зацікаўленьня сельскай гаспадаркай і дапамагаюць разумна скарыстаць вольны час і энэргію.

У ажыцьцяўленьні ідэі клюбнай працы па с.-г. сярод дзяцей ужо дасягнуты значныя вынікі, як у сэнсе правядзеньня культурных прыёмаў у тэхніцы сельскай гаспадаркі, так і ў сэнсе ўраджаю.

Аб гэтым скажуць клюбныя с.-г. выстаўкі, якія будуць праведзены ў дзень „Сьвята ўраджаю".

Думка аб гэтых выстаўках не пакідала ўвагі дзяцей увесь час іх працы. І цяпер амаль кожны з іх рыхтуецца да доўгачаканага дню „Сьвята ўраджаю".

**М. Альбіцкі.**

(Бел. Дзярж. І-т с.-г.).

---

# Лён-даўгунец.

У нас на Беларусі вельмі мала ўвагі зьвяртаюць на лён-даўгунец, а між тым ён мае вялікае значэньне для нашых гаспадарак.

У паўночна-заходняй частцы Беларусі і бліжэйшых да яе суседніх раёнах лён-даўгунец зьяўляецца вельмі каштоўнай культурай. Попыт на семя і валакно зараз вялікі і цана на іх стаіць даволі высокая, ня гледзячы на тое, што наша семя і валакно на замежных рынках расцэньваюцца танна, бо якасьць іх ня вельмі высокая.

---

[1]) Дзіцячыя клюбы могуць быць з'організаваны па розным галінам с. г. Апісаны гародны клюб зьяўляецца толькі прыкладам.

Валакно лічыцца добрым тады, калі яно аднастайнае, г. зн. аднолькавае даўжыні, афарбоўкі і бляску. Толькі добрым насеньнем можна дабі ца атрыманьня такога валакна. Самае галоўнае, што каштоўна ў валакне, гэта—найбольшая даўжыня і найменшая гальлістасьць сьцябла. Лён-даўгунец дае такое валакно. Лён-даўгунец можна вывесьці пасевам адборнага насеньня. Патрэбна толькі адбіраць насеньне самага буйнога і самага доўгага лёну.

З аднага лёну добрае семя і добрае валакно адначасна атрымаць ня можна. Пры пасеве лёну на насеньне валакно ня выйдзе добрым, бо выбіраецца насенны лён пасьля поўнага распяваньня, калі сьцябло падсохне і пагрубее, а лепшае валакно дае крышку зеленаваты лён. Дачакаўшы поўнага высьпяваньня лёну ў полі, трэба яго выбіраць, пры чым тут-жа адбіраць самыя высокія сьцябліны і вязаць іх асобна ў снапы. Пасьля, даўшы гэтым снапом добра выстаяць,—абмалаціць, правеяць і прачысьціць на спэцыяльнай трашчотцы. Яна добра аддзяляе семя ад сарнякоў.

Сеюць лён-даўгунец, як і просты наш лён, пасьля траў, пры шматпольных севазваротах у такім парадку: 1) папар, 2) азіміна, 3) травы, 4) травы, 5) травы і 6) лён. Альбо пасьля азіміны сеюць ярыну, у якую падсяваюцца травы, а затым лён.

Вучастак пад лён павінен быць ачышчаны ад сарнякоў і галоўным чынам ад павітухі (повіліка, Cuscuta L.), бо яна вельмі шкодзіць лёну.

Посьпех організацыі ільняняй насеннай гаспадаркі цэлых вёсак залежыць ад аб'яднананьня і ўзгодненасьці сялян паміж сабою і ад дапамогі, якую ім можа даць дзяржава выдачай апрабаванага семя, найбольш дастасаванага да ўмоў данай мясцовасьці.

Паасобным гаспадаркам лягчэй вывесьці добрае насеньне шляхам засеву некалькіх сартоў семя і выбару з іх таго, якое дасьць найлепшыя вынікі.

Селянін **С. Сялюкін.**

(Віцебская акруга).

## Як я карміў сьвіней улетку [1].

Самая клапатлівая праца для жанчыны ўлетку гэта тая, што ёй трэба нарваць травы сьвіньням. Гэта праца адбірае дарэмна час. Вось у гэтым годзе я дык збавіў жанчыну і дзяцей ад гэтай маруднай працы такім чынам: леташні год я пасеяў у гародзе канюшыну, а ў гэтым годзе з самае вясны кашу канюшыну і даю сьвіньням. Як на апошнім вучастку канюшына стала старой, то я пачаў касіць атаву і такім чынам ужо тры месяцы з 36 кв. сажн. кармлю пяцёра сьвіней. Трэба адзначыць, што сьвіньні вельмі ахвотна ядуць маладую канюшыну і хутка жырэюць. У гэтым годзе я ўжо даю менш збожжа, а сьвіньні жырней, чым у мінулым.

Але вось трэба толькі асьцярагацца, каб сечаная ці рэзаная канюшына не ляжала ў кучы, бо яна хутка сграецца і бывае шкоднай.

Селянін **Т. Тарасенка.**

Вёска Бракава, Магілеўскага раёну.

---

[1]) На Ваша пытаньне, калі лягчэй заворваць гной—пад першае ці другое ворыва (мешань) пад жыта, адказана ў № 6 „Плуга“ ў „Аб часе і способах заворваньня гною“. Рэд.

# Парады агронома.

ПЫТАНЬНЕ. Якое ўгнаеньне патрэбна для падзолістае глебы і ў якой меры.

**А. Дабравольскі.**

АДКАЗ. Усе падзолістыя глебы характарызуюцца тым, што з іх вымыта вапна. Адсутнасьць вапны шкодна для глебы, бо без яе ня можа ў глебе надоўга затрымацца перагной і наогул усе ўгнаеньні хутка нішчацца рознымі прычынамі (прыпадлівая глеба, прыпадзь).

Калі ў глебе няма лішку вады (калі ёсьць, дык трэба яе асушыць), то першым угнаеньнем моцна падзолістае глебы зьяўляецца вапнаваньне, пасьля якога магчыма карыстацца любымі арганічнымі і мінэральнымі ўгнаеньнямі, у звычайных нормах. Для больш поўнага азнаямленьня з рознымі ўгнаеньнямі прачытайце адпаведныя артыкулы часопісі „Плуг“.

| | | |
|---|---|---|
| Аб вапнаваньні . . . | № 4, | стар. 18 |
| Торф на ўгнаеньне . . . | № 5 | „ 3-4 |
| Кампост „ . . . | № 7 | „ 9 |
| Птушын. кал „ . . . | № 7 | „ 8 |
| Лубін „ . . . | № 2 | „ 12-13 |
| Попел „ . . . | № 1 | „ 5-7 |
| Мінэральн. ўгнаен. . . . | № 4 (16-17); № 7 ст. 11. | |

# С.-Г. ХРОНІКА.

## Ад лясных школак Горацкага с.-г. Інстытуту і дасьледчай лясной станцыі.

У лясных школках Горацкага с.-г. Інстытуту і дасьледчай лясной станцыі за апошнія гады вырашчана шмат пасадачнага матар'ялу лясных дрэў і кустоў дэкорацыйных парод. Пажадана, каб гэты матар'ял быў у час скарыстаны і пасаджаны для пашырэньня лясных плошчаў Беларусі.

Дробны лясны матар'ял (двухгадовыя і часткаю аднагадовыя сеянцы) могуць пайсьці для засадкі пустых месц і незаросшых лесам вырубак, як у лясох мясцовага значэньня, так і ў лясох дзяржаўных. Дэкорацыйны пасадачны матар'ял, а таксама і лясны (трох і чатырохгодкі) можна скарыстаць для абсадкі плошчаў і вуліц у гарадох, абсадкі пасёлкаў і вёсак, сяліб у новых пасёлках, вакзалаў чугунак, для пасадкі жывых платоў, для развядзеньня паркаў і невялікага лесу каля дамоў адпачынку, бальніц, школ і г. д.

Для сялян і школ ляснымі школкамі будзе адпушчана бяз кошту тая частка пасадачнага матар'ялу, якая вырашчана студэнтамі Інстытуту ў час практычных заняткаў. Увесь іншы матар'ял школкамі прадаецца (ад 1/2 да 1 кап. за 10 аднагодных сеянцаў, ад 1/2 да 2 кап. за 10 двухгадовых сеянцаў і ад 10 кап. да 2 руб. за 10 штук трох і чатырохгодак. Кошт выкапкі, пакаваньня і калі трэба перавозка па чыгунцы, аплачваецца купляючым.

Прадаецца матар'ял увосень і вясною. Заказы неабходна прысылаць раней, каб быў час іх здаволіць. Асеньнія заказы прымаюцца да 15 верасьня, а вясеньнія да 1 сакавіка.

У працягу бліжэйшай восені і вясны школкі могуць даць гэткі матар'ял:

*а) 1 і 2 гадавыя сеянцы*—хвойка чорная, хвойка Банка, хвойка звычайная, хвойка пондзероза, клён востралісты, клён-явар, клён палявы, белая акацыя, жоўтая акацыя, біручына, жымаласьць татарская, жымаласьць касьцяная, кратэгуз, крушына паслабляючая, крушына ломкая, дзераза, клён амэрыканскі, ясень амэрыканскі, каштан конскі, ільм, вяз;

б) 2-х двухгадовыя сеянцы і трохгодкі—хвойка чорная, елка звычайная, аморфа, туя заходняя, ельніца бальзамічная, клён татарскі, альха белая, бяро а барадаўчатая, чаромуха, ірга, барбарыс, сьвідзіна, пузырнік, бераслег эўропэйскі і барадаўчаты, розныя сьпірэі, гордавіна, церн, айва звычайная, дуб летні, вінаград дзікі, бэз, морва белая, таполя пірамідальная, таполя бальзамічная, вербы розныя, паросткі кашовых верб.

Школкамі таксама адпускаецца і высылаецца пас. матар'ял у замен насеньня дрэў і кустоў.

---

## Мерапрыемствы Белсельтрэсту па садоўніцтву.

Прымаючы пад увагу вялікую патрэбу пасадачнага матар'ялу для пладовых садоў, Белсельтрэст у бягучым годзе залажыў пладовыя школкі ў Слуцкай акр. у саўхозе Івань плошчаю 7 дзес. і ў Аршанскай акрузе ў саўхозе Усьце плошчаю ў 6 дзес. 985 сажн.*). Праца ў гэтых школках ужо пачалася: будуюцца парканы, вырашчваюцца дзічкі і г. д.

Вясною 1926 г. будзе высаджана на першыя палі школак каля 60.000 шт. дзічак. Апрача таго, організуюцца школкі ў Магілёўскай акр.—саўх. Дашкаўцы 3 дзес., Бабруйскай акр.—саўх. Рудня— 3 дзес. і Мазырскай акр. у саўхозе Дашкавічы—5 дзес.

Закладка пладовых школак мае вялікае значэньне, бо гэткім шляхам насельніцтва атрымае пасадачны матар'ял, узгадованы ў варунках Беларусі. Пасадачны-ж матар'ял, які мы атрымоўваем нават ад вялікіх садовых школак, напр., Шоха (Рыга), часта дрэнна прыжываецца ў садох Беларусі і дрэвы хварэюць на гніль карэньняў, ракам, марозабіцьцём і інш.

У пладовых школках трэсту будуць узрашчвацца толькі такія цэнныя сарты, якія не баяцца марозаў і прышчэпляны на марозатрывалых дзічках (Malus baccata і sylrestrys). Зусім ня будуць садзіць у школках трэсту такі сорт яблык, як апорт, бо яго дрэва амаль заўсёды хварэе ракам, а плады гніюць на дрэве.

У саўхозе Бабінічы, Аршанскае акругі, організаваны выраб віна з пладоў. У бягучым годзе на віно будзе перапрацавана каля 11.466 кілёграмаў (750 п.) яблык. Наша пладовае віно добрае якасьці і па сваёй вартасьці ня ўступіць вінаграднаму. Зьніжэньне акцызу на віно дасьць добры збыт яго, а разам з тым пашырыць і самы выраб.

У садох трэсту ў восень будзе зроблена ўсё, што належыць рабіць у культурных садох. Гэта павінна мець вялікае паказальнае значэньне для мясцовага насельніцтва, якое мала знаёма з культурнымі спосабамі вядзеньня садоўніцтва.

---

*) Гл. аб пладовых школках у № 5, стр. 45-46 час. „Плуг". Рэд.

Выданьне Наркомзема

Адк. рэд. Зьм. Прышчэпчу.

Рэд. кол. *Э. Русецкі. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*

## Конкурс п'ес для вёскі.

З мэтаю лепшай пастаноўкі тэатральнае справы на вёсцы і ажыўленьня працы драмгурткоў пры хатах-чытальнях і нардамох, Галоўпалітасьветы Беларусі абвяшчае конкурс на лепшыя п'есы для вясковага тэатру. Умовы конкурсу наступныя:

1. П'есы павінны быць аднадзейныя альбо дзьвёхдзейныя; 3-х і 4-х дзейныя п'есы дапушчаюцца толькі ў тым выпадку, калі пастаноўка іх займе ня больш 2½ гадзін. Колькасьць граючых асоб—да 7—9 чалавек. П'есы павінны быць напісаны на даступнай разуменьню сялян мове.

2. Тэмы для п'ес бяруцца з галіны жыцьця, быту і рэвруху сялян і рабочых, асабліва ў пэрыяд 1917—1920 г. г. У п'есах павінен быць намалёваны і цяперашні быт сялян, праца РВК-аў і Сельсаветаў, Комітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі, праца коопэрацыі розных тыпаў, адносіны сялянства да партыі і комсамолу, грамадзянская роля селькора, становішча жанчыны-сялянкі, няпісьменнасьць, самагон, рэлігія і г. д.

3. П'есы могуць быць напісаны на любой з чатырох дзяржаўных моў БССР: беларускай, жыдоўскай, польскай і расійскай.

4. Рукапісы павінны быць напісаны пад псэўдонімам; сапраўднае-ж абазначэньне аўтара (прозьвішча, імя і імя бацькава) у асобным запячатаным конвэрце.

5. Лепшыя п'есы будуць Галоўпалітасьветай прэміраваны ў наступным разьмеры:

Адна прэмія ў 300 руб.
Дзьве „ па 200 руб. кожная.
Тры „ 100 руб. „

6. Прэміраваныя, а таксама лепшыя з ліку непрэміраваныя п'есы будуць куплены Галоўпалітасьветай з аплатай па нормах, устаноўленых. Бел. Дзярж. Выдавецтвам.

7. Апошні тэрмін прысылкі ў Галоўпалітасьветы рукапісаў 1-ае сьнежня 1925 году.

8. У жюры конкурсу ўваходзяць прадстаўнікі наступных устаноў і організацый: Доўгаполаў (Галоўпалітасьветы), Жылуновіч (ЦВК), Дыла (Інбелкульт), Янка Купала (Народны поэт), Дубоўка (група „Маладняк“), Міровіч (Белдзяржтэатр), Галубок (2-я Белдзяржтрупа), Ахрамовіч (Саюз Працасьветы), Табайнік (Саюз працмастацтва) і Арэшнікаў (Галоўлітбел).

Старшыня Галоўпалітасьветы **Доўгаполаў.**

---

## Ад дасьледчага аддзелу НКЗ Беларусі.

Наркомзем Беларусі заклікае спэцыялістых на гэткія пасады:

1) На беларускай агрономічнай дасьледчай станцыі (Менск)—загадчыка аддзелу прыкладной ботанікі, сэлекцыянэра-насеннавода, агрохэміка і ляборанта. 2) На Палескай с.-г. дасьледчай станцыі (Мазыр)—загадчыка дасьледчай станцыі, агронома-палявода. 3) На Віцебскай дасьледчай станцыі (Віцебск)—агрохэміка. На станцыі па барацьбе са шкоднікамі (Менск)—2-х інструктароў па барацьбе са шкоднікамі.

Варункі: пэнсіі загадч. станцыі да 120 руб. у месяц, іншым спэцыялістым—ад 80 да 120 руб. у месяц.

Заявы з curriculum vitae накіроўваць у НКЗ Беларусі, Менск, Савецкая 71.

1-я Дзяржаўная друкарня—лік 5500 экз. Заказ № 4602. Галоўлітбел № 12.303.

